№ 7 (844) 19 лютага 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Мова гэтай зямлі

## Каталонскі прэцэдэнт для беларускай мовы

Гісторыя заняпаду і ўваскрасення каталонскай мовы. **Старонкі 9—10.**

21 лютага — сусветны Дзень роднай мовы. Як я стаў «беларусам». Ліст з Харкава. Старонка 2.

**Войскa**

### Дэсантнікі чакаюць адпраўкі ў Таджыкістан

Яны будуць ахоўваць афганскую мяжу. **Старонка 3.**



**Нерухомасць**

### Хто набыў самыя дарагія кватэры Мінска?

За сяміпакаёвыя апартаменты заплацілі $1 мільён. **Старонка 5.**



**Літаратура**

### Змены сувязяў

Уладзімір Някляеў. Апавяданне. **Старонкі 12-13.**



**Спорт**

### Мікалай Казека – канструктар беларускіх перамог

Фрыстайлісты ў Сочы ўзялі два залатыя медалі. **Старонка 15.**



# Як я стаў «беларусам»

Напярэдадні Дня роднай мовы «НН» атрымала ліст ад чытача з Украіны.

Перш за ўсё — чаму «беларус» у двукоссі?

Мой сямейны радавод выглядае так. Па лініі бацькі — украінцы-казакі. Сярод іх, напрыклад, мой прадзед, які ў 1917 годзе служыў у ахове апошняга расійскага імператара Мікалая II. Больш за тое, ёсць звесткі, што сам хутар, ад якога і паходзіць маё прозвішча — Кузьмінкі ў Палтаўскай вобласці, — быў падараваны расійскім царом Пятром I заснавальніку роду, украінскаму казаку Кузьму з Правабярэжжа Дняпра, за вайсковыя поспехі ды асабістую мужнасць на полі Палтаўскай бітвы. Ён быў адным з казакоў прамаскоўскага гетмана Украіны Паўла Скарападскага.

А вось па лініі маці сітуацыя выглядае больш складанай. Бацька маці — украінец з Вінніцкай вобласці, але ў ягоным радаводзе ёсць вельмі прыкметная венгерская галіна, а ў яе маці, маёй бабулі, змяшалася кроў польскай шляхцянкі і звычайнага харкаўскага рамесніка. Менавіта гэтая гісторыя мае найпрасцейшае дачыненне да таго, як я стаў «беларусам». Прабабуля і прадзед трапілі ў Харкаў яшчэ ў гады Першай сусветнай вайны. Яна — бежанка з Варшавы, ён у пошуках заробку перасяліўся ў паўднёвыя краі тагачаснай Расейскай імперыі з паўночных краёў.

Вядома, што сёння Смаленская вобласць — частка Расійскай Федэрацыі. Але так было не заўжды. Як і раней, так і сёння ў Смаленскай вобласці жыве вялікая колькасць этнічных беларусаў.

Мой прадзед, бацька маёй бабулі па маме, прыблізна ў 1918 годзе падаўся са сваёй «малой» радзімы ў Смаленскай губерні (ёсць не вельмі пэўныя ведамасці, што гэта была вёска Коладня пад Смаленскам), на поўдзень. У войска яго не ўзялі — не хапала вока. Калі ён застаўся жыць у Харкаве — невядома, магчыма, адразу, магчыма, праз некалькі год. У 1924 годзе ён пабраўся з маёй прабабуляй, а ў 1925 годзе нарадзілася мая бабуля.

У маёй сям'і было прынята паважаць польскую галіну — прабабулю... І мая маці, і сястра, і нават стрыечны брат заўсёды цікавіліся гісторыяй яе роду. Стрыечны брат нават даведаўся падчас знаходжання ў Польшчы што яна паходзіла з невялікага горада Пястаў Труб.

Чамусьці адзіным у нашай сям'і, хто «узяў на шчыт» беларускія карані, стаў я. Прынамсі, я пра гэта ведаў і памятаў. І вось 1/8 частка маёй крыві, менавіта беларускай крыві, выявілася вельмі моцнай, нават канцэнтраванай. Больш за тое, яна вельмі паспяхова паўплывала на маю свядомасць. Доказам чаго і ёсць гэтыя радкі па-беларуску.

Магчыма, на «абуджэнне» маёй «беларускасці» паўплывала і тое, што дзесьці ў канцы 90-х мне падарылі радыёпрымач з кароткімі хвалямі. У тым эфірным акіяне я знайшоў і некалькі радыёстанцыяў з беларускай мовай вяшчання. Тыя «галасы» спачатку вельмі «раздражнялі» мяне: мова амаль падобная да ўкраінскай, якую я дасткова добра ведаю, але я не зусім разумею, што «там» гавораць... Паступова з'явілася сапраўды моцнае жаданне зразумець, «што яны гавораць».

У нашай мясцовай навуковай бібліятэцы імя Караленкі яшчэ студэнтам ВНУ я знайшоў тое, што там было па-беларуску: падшыўка часопіса «Крыніца» канца 80-х і некалькі зборнікаў вершаў (ва ўкраінскім каталогу) Сяргея Законнікава. І гэта было амаль усё, калі не лічыць цудам захаваных «Чытанак» канца 30-х ды трэцяга тома «Лепшых дум чалавека» Яна Пятроўскага, які цудам трапіў у бібліятэчныя фонды ў 1992 годзе. Я даведаўся, што раней, да Другой сусветнай вайны і нават да канца 70-х, кніг было болей... Але гады акупацыі і марадзёрства, а таксама пазнейшая палітыка «спісання састарэлых кніг», вельмі адмоўна паўплывалі на захаванне беларускамоўных выданняў у адной з найбуйнейшых бібліятэк Украіны.

Пазнаць душу народа магчыма толькі праз ягоную мову. Прынамсі, я ўпэўнены, што гэта адзіны шлях. Кроў і глеба, чалавек і продкі — усё гэта звязана. Прашу прабачэння за гэткую банальнасць.

Карыстацца кнігамі ў чытальні бібліятэкі было неяк нязручна, і я пачаў шукаць кнігі па-за яе межамі ды фондамі.

Праз нейкі час у аднаго з сяброў, выпадкова даведаўшыся пра існаванне гэткай кнігі, я пазычыў беларуска-расійскі размоўнік Міхневіча, выдадзены ў Мінску ў 1991 годзе, па якім і пачаў вывучаць асновы беларускай мовы. Але па-сапраўднаму мае веды пашырыў спампаваны з інтэрнэту падручнік «Гавары са мной па-беларуску» Сержука Аляксандрава і Галіны Мыцык 2001 года.

«Падвучыў» па падручніках мову, працягваў слухаць беларускамоўныя радыёстанцыі, знаёміўся праз інтэрнэт з падзеямі ў культурным жыцці Беларусі, адным словам, «пагружаўся» ў беларускасць духоўна, фізічна застаючыся ва Украіне.

Мінуў нейкі час, і я паспрабаваў адшукаць у Харкаве беларусаў. Праз знаёмых «выйшаў» на спадара Васіля Самуйленку. Ён узначальваў тады Украінскую грамадскую арганізацыю беларусаў «Белая Русь», прынамсі, так ён адрэкамендаваўся. Падчас размовы з ім я пачуў пра існаванне яшчэ адной арганізацыі беларусаў у Харкаве, але знайсці яе не атрымалася. Тым больш што пасля размовы са спадаром Самуйленкам мяне ахапіла абыякавасць, маральная стомленасць. На пытанні пра беларускую мову ды магчымасці паляпшэння майго веснага маўлення ён агарошыў мяне інфармацыяй пра тое, што беларусы Харкава не карыстаюцца беларускай мовай, што для іх «роднай» ёсць расійская. Ён чуў неяк, што ў іншых гарадах Украіны ёсць людзі, якія памятаюць беларускую мову, але ў Харкаве такіх няма. Наша гаворка скончылася тым, што ён сказаў: «У цябе жудасны ўкраінскі акцэнт». Сказана гэта было па-расійску. Таму, магчыма, я і падупаў духам: калі чалавек, для якога родная мова расійская, так «цудоўна» памятае, як павінна гучаць літаратурная беларуская мова, то што я магу з гэтым зрабіць. Я яе дасканала не ведаю, а ён не карыстаецца... Але галоўнае «зерне» было пасаджанае — сумнеў ва ўласных ведах, як і сумнеў у магчымасцях практыкавання. Я памыляўся, але зразумеў гэта пазней.

Праз некалькі гадоў, атрымаўшы вельмі моцны штуршок у выглядзе падараванага просценькага mp3-плэера, маё жаданне зразумець, як усё ж такі я гавару па-беларуску, прымусіла мяне ізноў пашукаць кантакты ў беларускім асяроддзі Харкава. І тут мне вельмі пашанцавала. Праз ЗБС «Бацькаўшчына» я пазнаёміўся з сапраўдным Беларусам — Васілём Астаповічам. Гэты чалавек беражэ агмень роднай мовы, нягледзячы на тое, што жыве ў Харкаве ўжо амаль 50 гадоў. Ён не толькі ведае сам, а і спрабуе заахвоціць да беларускай мовы ўласных унукаў.

Увесь час, а гэта ўжо больш за дзесяць гадоў, што я цікаўлюся Беларуссю ды беларушчынай, я неаднаразова чуў ад сваіх сваякоў і сяброў гэткія рытарычныя звароты: «Навошта табе гэтая Беларусь? Навошта табе гэтая беларуская мова? Які плён ты можаш атрымаць ад нікому непатрэбных ведаў?»

Вось чаму я паставіў двукоссе, калі пачаў расказваць, як я стаў беларусам. Бо калі б я быў «сапраўдным беларусам», мусіў бы, як і сотні тысяч «беларусаў», якія носяць у кішэні пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, у кім болей за 1/8 беларускай крыві, тых, хто на роднай зямлі, ва ўласнай дзяржаве хавае родную мову ў сутарэннях пад сваімі дамамі, на гарышчы бацькоўскіх вясковых хат, здраджваючы продкам ды ўласнай душы, мусіў бы, як і яны, забыць мову крыві і карыстацца ўсё жыццё расійскай... Але хто з нас тады ў двукоссі?

**Аляксандр Кузьменка, Харкаў**

**P.S.** Я не веру, што сённяшняе жыццё беларусаў, гэты сон наяве, будзе трываць яшчэ доўга. Калісьці беларусаў абудзілі словы Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Таму застаецца толькі абраць — жывая мова або смерць душы. Упэўнены: Беларусь абярэ жыццё!

## Сцісла

### Русіфікацыя нарастае

У 2013/2014 навучальным годзе школьнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, засталося толькі 15% (142 тысячы дзяцей, гэта кожны сёмы вучань). Яшчэ летась іх было 16,4%, а дзесяць гадоў таму — 24,8%.

Ва ўніверсітэтах сітуацыя крытычная. Па-беларуску вышэйшую адукацыю атрымліваюць больш за 600 чалавек, летась было каля 700 чалавек. Гэта ўсяго 1 з 670 студэнтаў.

### Невядомы абрабаваў банк пад Мінскам

Выпадак адбыўся 18 лютага каля 9:00 у пасёлку Зялёны Бор Смалявіцкага раёна. Невядомы ўвайшоў у памяшканне аддзялення «Беларусбанка» і, пагражаючы прымяненнем зброі касіру, забраў грошы. Сума скрадзенага вызначаецца.

### Юнак пад уздзеяннем спайсу выпадкова забіў сябе

У пасёлку Прывольнае пад Мінскам трое сяброў (аднаму з якіх 18 гадоў, іншым — па 19) пакурылі спайс — сінтэтычны наркотык, аналаг марыхуаны. Наркатычнае ап'яненне перарасло ў аднаго з іх у вострыя псіхоз, у нейкі момант юнак з разбегу выскачыў праз акно на балконе. Ад страты крыві і болевага шоку малады чалавек памёр да прыезду «хуткай».

### Афрыканская чума свіней дайшла да Польшчы

Вірус знайшлі ў памерлага дзіка, выяўленага ў гміне Студзялава Падляскага ваяводства, каля мяжы з Беларуссю. Некалькі тыдняў таму выпадкі афрыканскай чумы свіней былі выяўленыя ў Літве, што стала падставай для ўвядзення Расіяй забароны на імпарт свініны з усяго Еўрасаюза.

### У Даніі забаранілі халяль і кашрут

Іудзейскі і мусульманскі рытуальны забой жывёл абвешчаны ў Даніі па-за законам. У Даніі забараняюць дзейнасць усіх бойняў і разніц, калі яны не практыкуюць забой шляхам аглушэння. Правы жывёл важнейшыя за рэлігію, вырашылі датчане.

**ЯМ**

### Прыватныя абвесткі

ВІНШАВАННІ

**Узялі шлюб Сяржук Лацінскі і Алеся Скапінцава.** Зычым вам сто гадоў шчасця і дзесяць нашчадкаў! Сябры

**Ірыну і Ігара Кузьмінічаў** віншуем з нараджэннем дачкі Дарыны. Сябры

**Віншуем Яраслава Крывога і Паўлу Бароўскую** з уступленнем у шлюб! Моцнай сям'і і шмат дзетак! Сябры

### Рэкамендуем

## Пяць гісторый з жыцця Антона Кушніра, Алы Цупер і Надзеі Скардзіна



Усё пра беларускіх алімпійскіх прызёраў

**Чытайце на nn.by**

### Апытанне на nn.by

**Вы ганарыцеся перамогамі беларускіх спартоўцаў на Алімпіядзе?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 1129 | 68% |
| Не | 193 | 11% |
| Ганаруся настаўнікамі, дактарамі і хлебаробамі | 172 | 10% |
| спорт — гэта пустое | 185 | 11% |

Усяго прагаласавала 1679.

### Самае чытанае на nn.by за 12-18 лютага

1. 23-гадовая гімнастка Ксенія Санковіч — хто паляцеў у Сочы ў кампаніі Лукашэнкі?
2. Лукашэнка, Коля, Чыж і Шакуцін віншуюць і падкідаюць Домрачаву
3. Ігар Магазіннік: беларус, які стварыў праграму Viber і прадаў яе японцам за $900 мільёнаў
4. Кіеў зноў у агні, ідуць сутычкі са спецназам
5. Лукашэнку абразілі ў жывым эфіры БТ
6. Ці Дар'я Домрачава — афіцэр КДБ?
7. На МКАД прасеў асфальт і ў ямы праваліліся 10 аўто, утварыўся вялікі затор
8. Яшчэ адно золата: Ала Цупер — чэмпіёнка ў лыжнай акрабатыцы
9. Нарвежскія алімпійцы распрануліся ў знак пратэсту
10. У мінскім раддоме памерла маладая настаўніца: родныя вінавацяць дактароў

# Дэсантнікі чакаюць адпраўкі ў Таджыкістан

**Яны будуць дапамагаць АДКБ у ахове афганскай мяжы.**

Праз 25 гадоў пасля выхаду савецкіх войскаў з Афганістана беларускія вайскоўцы вяртаюцца ў Цэнтральную Азію. Як стала вядома «Нашай Ніве», «выконваць інтэрнацыянальны абавязак» рыхтуюцца віцебскія салдаты.

«Будзем ахоўваць таджыкска-афганскую мяжу. Як нам сказалі, некалькі месяцаў пабудзем у Таджыкістане, пасля прыедзе наступная вахта», — паведаміла «НН» крыніца ў 103-й гвардзейскай мабільнай брыгадзе, якая базіруецца ў Віцебску.

Заканадаўства Беларусі забараняе ўдзел узброеных сіл у баявых аперацыях, але дапамога Таджыкістану ў рамках Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ) пад такія не падпадае.

Колькасць вайскоўцаў, якія будуць перакінутыя ў Таджыкістан, не паведамляецца, невядомы і запланаваны час адпраўлення. «Чакаем», — тлумачыць адзін з тых, хто трапіў у спіс «на Таджыкістан».

17 лютага кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з генеральным сакратаром АДКБ Мікалаем Бардзюжам паабяцаў дапамагчы Таджыкістану з аховай мяжы з Афганістанам. Сёлета сканчваецца вайсковая місія НАТА ў гэтай краіне, і расейцы мяркуюць, што з сыходам амерыканцаў праз мяжу пацякуць наркотыкі і зброя.

Бардзюжа заявіў, што Беларусь дапаможа экіпіроўкай і тэхнікай. Пра адпраўку салдат ні слова сказана не было. «Але нам сказалі: як жа мы адправім тэхніку без людзей?» — кажуць віцебскія салдаты.

«Уладзімір Пуцін спрабуе ўзвесці ў Цэнтральнай Азіі бастыён супраць радыкальных мусульман», — мяркуе вайсковы аналітык Аляксандр Алесін. На яго думку, кіраўніцтва Расіі хоча засцерагчыся ад уплыву радыкалаў на рэгіёны, дзе жыве вялікая доля мусульманаў.

Сілы АДКБ дзейнічаюць у інтарэсах Расіі, кажа Алесін, але Беларусь удзельнічае ў гэтым праекце не задарма. Узамен краіна атрымлівае танную зброю, а таксама эканамічныя прэферэнцыі.

«Пасля распаду СССР на тэрыторыі Беларусі засталася старая тэхніка. Яна маральна састарэла, таму на вайне неактуальная. А вось супраць партызанаў і тэрарыстаў можа спатрэбіцца», — разважае эксперт.

Беларусь уступіла ў АДКБ у 2009 годзе. На дадзены момант, апроч нас, у вайсковым саюзе знаходзяцца Расія, Казахстан, Арменія, Кыргызстан і Таджыкістан.

Паводле статута арганізацыі, калектыўныя сілы аператыўнага рэагавання выкарыстоўваюцца для адбіцця вайсковай агрэсіі, правядзення спецыяльных аперацый па барацьбе з міжнародным тэрарызмам і экстрэмізмам, транснацыянальнай арганізаванай злачыннасцю, наркатрафікам, а таксама для ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый.

Паводле інфармацыі «Расійскай газеты», ад Беларусі ў сілах аператыўнага рэагавання мае ўдзельнічаць менавіта 103-я гвардзейская мабільная брыгада. Алесін дадае, што, магчыма, у выпадку ўмяшальніцтва з боку АДКБ у нейкую краіну ад Беларусі спатрэбіцца яшчэ і ўдзел «міліцэйскай» брыгады, для падтрымання парадку і забяспечэння стабільнасці ў рэгіёне.

На ягоную думку, салдаты тэрміновай службы прымацца ўдзел у ахове таджыкскай мяжы не будуць: у гэтым няма патрэбы, бо хапае кантрактнікаў. Хоць тэарэтычна пасля праходжання спецыяльнай падрыхтоўкі могуць адправіць у Азію і звычайных салдат.

Беларускі вайсковы спецназ праводзіў трэніроўкі і ў Катары, і ў Кітаі, таму будзе гатовы і да дзеянняў на мяжы з Афганістанам.

Прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Уладзімір Макараў каментаваць сітуацыю адмовіўся. Паскардзіўшыся на «некарэктнае асвятленне» «Нашай Нівай» скандалу з манументам у Брэсцкай крэпасці, ён кінуў слухаўку.

**Ягор Марціновіч**

# «З нашага пункта гледжання, яны крымінальнікі»

**Пасол Ёсеф Шагал быў вядомы сваімі адыёзнымі заявамі яшчэ ў Ізраілі.**

У лютым 2012 Ёсеф Шагал, які да гэтага ніколі не быў на дыпламатычнай службе, толькі прыбыў на працу ў Беларусі. Падчас інтэрв'ю агенцтву БелаПАН ён сказаў, што не ведае, ці існуюць у Беларусі палітвязні.

«Я — грамадзянін Ізраіля , у нас няма палітвязняў. Што да Беларусі, то я не ведаю, мне трэба пачытаць газеты. Праз паўгода я адкажу на ваша пытанне, — сказаў пасол. — Я журналіст і ведатна ведаю, як пішуцца артыкулы. Вы самі бывалі ў лагерах для палітвязняў?»

Сёлета ў эфіры тэлеканала RTVi ён параўнаў беларускіх палітвязняў з палестынскімі тэрарыстамі. «Я не кажу, што яны не палітзняволеныя — з якога боку глядзець. З пункту гледжання крымінальнага кодэкса краіны, дзе іх пасадзілі, яны крымінальнікі. З пункту гледжання Польшчы ці Еўрасаюза, яны — палітзняволеныя», — сказаў ізраільскі дыпламат.

На пытанне журналісткі «А з пункту гледжання Ізраіля?» Шагал адказаў: «З пункту гледжання нашага, яны крымінальнікі, бо ў іх ёсць артыкул — за хуліганства, за кіданне камянёў, за зняваґу ўладаў, ну і гэтак далей».

Вядома, такія заявы выклікалі вялікае абурэнне ўнутры Беларусі. Шагал пагадзіўся прыняць лідараў апазіцыі ў сябе, падчас размовы ён сказаў, што яго няправільна зразумелі, хоць пераглядзіць відэа відавочна паказвае, што іншых трактовак у яго словаў быць не можа. У выніку дыпламат так і не выбачыўся.

Праз колькі дзён Міністэрства замежных справаў Ізраіля ўсё ж было вымушанае адрэагаваць на словы Ёсефа Шагала. Праўда, зрабіла гэта неяк няясна. Паведамленне з'явілася на сайце ізраільскага пасольства ў Варшаве: «Словы пасла ў Мінску ні ў якім разе не адлюстроўваюць пазіцыі дзяржавы Ізраіль, — гаворыцца ў заяве. — Гэтыя словы [заявы адносна Польшчы і Еўрасаюза] выклікалі непаразуменне сярод нашых сяброў. Выказваем шкадаванне з гэтай нагоды. Адпаведныя тлумачэнні ўжо былі перададзеныя праз дыпламатычныя каналы».

Праз некалькі дзён 46 былых палітвязняў, а таксама іх сваякі запатрабавалі адклікаць сп.Шагала з Беларусі.

Насамрэч, казаць, што пазіцыя Ёсефа Шагала адлюстроўвае пазіцыю Ізраіля, не выпадае. Хутчэй, гэта пазіцыя асобна ўзятай партыі «Наш дом — Ізраіль», якую ўзначальвае адыёзны Авігдор Ліберман. У Ізраілі найбольш уплывовыя партыі размяркоўваюць паміж сабой не толькі міністэрскія пасады, але і дыпламатычныя.




## Атрымліваў ордэн з рук Ільхама Аліева

Ёсеф Шагал нарадзіўся ў Баку (яго першае імя Восіп Шчогалеў), дзе і пражыў да 1990 года. Быў членам КПСС, намеснікам галоўнага рэдактара Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Азербайджанскай ССР.

У 2011 годзе Шагал з рук прэзідэнта Азербайджана атрымаў ордэн «Достлуг» (Дружбы) — найвышэйшую ўзнагароду Азербайджана.

Азербайджан шмат разоў абвінавачвалі ў парушэнні правоў чалавека і фальсіфікацыі выбараў. У краіне за кратамі знаходзяцца некалькі дзясяткаў палітвязняў. Пры гэтым краіна мае прывілеяваныя адносіны з Ізраілем, які выбудоўвае ланцуг саюзнікаў вакол свайго патэнцыйнага праціўніка — Ірана.

У 2006 годзе паездка Ёсефа Шагала на радзіму ў Баку скончылася вялікім скандалам. Шэраг заяваў гэтага чалавека прыцягнуў увагу не толькі ў Ізраілі і Азербайджане, але і ў Арменіі і Іране. У Тэгеране выказванні Шагала нават пачалі выкарыстоўваць у сваіх мэтах. Чаго ж нагаварыў дэпутат?

«Ізраіль падтрымлівае справядлівую пазіцыю Азербайджана ў нагорна-карабахскім канфлікце», — прычым гаварыў ён тое не як прыватная асоба, а ад імя ўсяго Кнесэта. У ізраільскіх СМІ меркавалі, што тыя заявы Шагала маглі паспрыяць умацаванню пазіцый Ірана ў Арменіі.

Сам Ёсеф Шагал адказваў, што меў мала дыпламатычнага досведу. Ізраіль у армяна-азербайджанскім канфлікце афіцыйна трымаецца нейтралітэту. Праз тыя заявы на нейкі час быў адкладзены візіт міністра замежных справаў Ізраіля Цыпі Лівні ў Баку.

## Назваў дэпутата Кнэсэта «казлом»

Невялікі перыяд часу Ёсеф Шагал быў дэпутатам ізраільскага Кнесэта (парламента). Ён трапіў у спіс абраных ад нацыяналістычнай партыі «Наш дом — Ізраіль». Партыя абапіраецца пераважна на выхадцаў з былога СССР.

Падчас абмеркавання дэпутатамі пытання генацыду армянскага народа спадар Шагал настолькі разгарачыўся, што назваў дэпутата Элькіна з партыі «Кадзіма» «казлом». Той меў неасцярожнасць нагадаць, што дэпутат-нябожчык ад «Наш дом — Ізраіль» Юрый Штэрн таксама выступаў за прызнанне генацыду армян. «Ты яшчэ Чэхава ўспомні, казёл, морду б табе набіць трэба», — сказаў па-руску Шагал.

## Троліў журналістку

У 2006 годзе ў эфіры тэлеканала RTVi Шагал затроліў журналістку Асю Істошыну. Гаворка ішла аб уваходзе партыі «Наш дом — Ізраіль» у шырокую кааліцыю. Вось некаторыя ягоныя выказванні з таго інтэрв'ю.

«Ася, гэта псіхалогія хатняй гаспадыні... Хопіцьператварацца ў класічных ізраільцян».

«Ася, прабачце, канечне, але па-моему, вы сябе кепска адчуваеце, вам трэба прыняць вакцыну ад грыпу».

«Мне надакучыла ваша дэмагогія. Ася, давайце я вас крыху павучу, я вядучы ўсё ж больш дасведчаны».

«У вас ёсць нармальныя, здаровыя пытанні? Вы мяне сустракаеце пяццю пытаннямі. У вас іншых паперак болей няма? Ну задайце якое-небудзь нармальнае пытанне».

«Паслухайце, вы мяне ведаеце. Я, я Ёсеф Шагал, я журналіст, і я маю няшчасце выхаваць шмат вучняў, у тым ліку і няўдалых — гэта бывае».

«Вы памыляецеся, як заўсёды, па вызначэнні».

## «КДБ у смокінгу»

Шагал здабыў сабе вядомасць як пісьменнік трохтомнікам «КДБ у смокінгу», паводле якога быў нават зняты серыял. У Ізраілі ён працаваў на вядомага мільярдэра Аркадзя Гайдамака. А потым нейкі час рэдагаваў латвійскую рускамоўную газету «Рэспубліка», дзе надрукаваў інтэрв'ю з сакратаром НАТА Хаўерам Саланам, якога не было.

**Зміцер Панкавец**

# «Трэба клікаць у кіраўнікі беларусаў-эмігрантаў»

**Так мяркуе памочнік Лукашэнкі ў эканоміцы Кірыл Руды.**

Ягоны выступ у «Галоўным эфіры» (нядзельная «Панарама») датычыў рэфармавання ў кадравай палітыцы. Як Беларусі, якая адчувае дэфіцыт канкурэнтаздольных кіраўнікоў, трэба абнаўляць кадравы рэзерв?

«Першае і галоўнае — укладваць ва ўласную адукацыю, — перакананы доктар эканамічных навук Кірыл Руды. — Тыя паспяховыя хлопцы, якія з'ехалі за мяжу, так ці інакш атрымлівалі адукацыю ў Беларусі. Яны сталі запатрабаванымі з базай, якую атрымалі ў нас».

Другую ідэю Руды бачыць у накіраванні спецыялістаў на стажыроўкі за мяжу.

«У многіх краінах гэта аплачвае дзяржава, гэта было і ў Кітаі, і ў Казахстане, — разважае ён. — Уявіце, калі з вядучага топ-універсітэта свету, напрыклад Кэмбрыджа, вернецца наш выпускнік, і яго зробяць начальнікам аддзела ў Мінгарвыканкаме. Мне падаецца, ён там такі дысбаланс унясе... Тым не менш прымусіць нешта па-іншаму глядзець і на сябе, і на свет».

Трэцяя ідэя памочніка прэзідэнта найбольш нечаканая. Руды прапануе папрасіць беларускіх эмігрантаў вярнуцца ў краіну.

«Пасля распаду Савецкага Саюза былі хвалі эміграцыі. Многія нашыя суайчыннікі з'ехалі за мяжу, і яны паспяховыя ў міжнароднай сферы, на сусветных рынках», — тлумачыць ён.

Руды сумняецца, што нехта з эмігрантаў адважыцца перакрэсліць частку свайго жыцця і сказаць: я ніколі не ўзгадаю пра Беларусь.

**Ягор Марціновіч**




## Ці можна будзе купіць карункавыя трусы?

**На тэрыторыі краін Мытнага саюза ўведзеная забарона на вытворчасць, увоз і продаж майткоў з сінтэтыкі.**

Пра гэта заявіў міністр па пытаннях тэхнічнага рэгулявання Еўразійскай эканамічнай камісіі Валерый Карашкоў.

Забарона была выкліканая тым, што дадзеная прадукцыя не адпавядае тэхрэгламенту Мытнага саюза.

«Усе патрабаванні не новыя, яны ўжо існавалі. Калегі павінны былі згодна з імі ўвозіць прадукцыю. А яны зрабілі выгляд, што для іх яны новыя. Трэба, значыць, разабрацца, як раней яны ўвозілі прадукцыю», — сказаў Карашкоў.

Як адрэагавалі на такія новаўвядзенні беларускія вытворцы бялізны?

Кампанія *Serge* атрымала новыя сертыфікаты на адпаведнасць тэхнічнаму рэгламенту Мытнага саюза яшчэ восенню. Сертыфікаты дзейнічаюць да 2018 года. У пратаколе выпрабаванняў, на падставе якіх і выдалі сертыфікаты, указана, што з гідраскапічнасцю «сержаўскіх» карункаў усё ў парадку: 7,7% пры норме не менш за 6%.



Такія ж паказчыкі былі і раней, да ўступлення ў сілу новых правілаў, кажа намесніца гендырэктара па камерцыйных пытаннях Дар'я Лешчанка.

У «Марк Формэль» нам патлумачылі, што да 14 лютага дзейнічалі сертыфікаты старога ўзору на дзіцячую бялізну. Да 1 ліпеня яшчэ дзейнічаюць сертыфікаты старога ўзору на жаночую бялізну, а пасля ўступаюць у сілу сертыфікаты Мытнага саюза. Каб іх зрабіць, прадпрыемствы праводзяць выпрабаванні сваіх тканін.

«Мы атрымалі сертыфікаты, яны ў нас на руках. З гэтага вынікае, што ўсе нашыя палотны адпавядаюць патрабаванням тэхнічнага рэгламенту. Адпаведна, карункавыя трусы «Марк Формэль» будзе выраблядь», — паведаміла Вольга Алесіна, спецыяліст аддзела маркетынгу.

Гідраскапічнасць (здольнасць прапускаць вільгаць) карункаў «Марк Фармэль» — 7,9%. «У прынцыпе, для нас нічога не змянілася, мы проста абнавілі сертыфікаты», — кажа Алесіна.

Яна станоўча глядзіць на новыя правілы. Па-першае, на рынку будзе менш няякасных тканін, ад якіх потым «нешта можа чацаца». Па-другое, як кажа Вольга, раней кампанія рабіла два сертыфікаты: беларускі і расійскі. Зараз будзе адзіны дакумент, што і зручней, і танней.

А вось што будзе з трусамі «Мілавіцы», пакуль невядома. У прыёмнай найбуйнейшага вытворцы бялізны нам паведамілі, што «карункавыя трусы» не каментуюць. Так вырашыла кіраўніцтва.

**Аксана Рудовіч**

## З кітайска-беларускім індустрыяльным паркам нешта не так

«Калі вы хочаце чарговы праект, палову, як мінімум, павесіць на бюджэт, у мяне такіх грошай няма», — сказаў Лукашэнка на нарадзе адносна кітайска-беларускага індустрыяльнага парку.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што пры стварэнні парку неабходна зыходзіць выключна з пытанняў эканомікі. «Мне тут ніякая палітыка не патрэбна. У мяне няма грошай на такую палітыку. Гэта павінен быць выключна камерцыйны праект. Калі кітайцы камусьці давалі крэдыт пад 2,5—3 працэнты, то пад 5—6 працэнтаў мы крэдыты браць у іх не будзем. Вось у чым павінна быць палітыка», — наракаў Лукашэнка.

Лукашэнка нагадаў, што ў Сочы ў яго адбылася паўтарагадзінная сустрэча са старшынёй КНР Сі Цзіньпінам.

Міхаіл Мясніковіч заявіў, што курс на стварэнне парку застаецца нязменным. Але ж умовы для інвестараў павінны быць прывабнымі, сказаў ён.

«Мы далі тэрыторыю, мы гатовы падрыхтаваць адукаваных людзей, падвесці газ і пакласці дарогу. Але гэта ж не значыць, што мы ўнутры гэтага парку будзем за ўсіх працаваць», — запярэчыў яму Лукашэнка.

Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік прызнаў, што рэалізацыя праекта па стварэнні парку аказалася намнога складанейшай, чым гэта бачылася першапачаткова.

Разам з тым, за паўтара года пасля падпісання адпаведнага ўказа многае ўдалося зрабіць: створаны і працуюць адміністрацыя і сумесная кампанія па развіцці парку, сфарміраваны статутны фонд, распрацаваны і зацверджаны генеральны план тэрыторыі, распрацаваны дэталёвы план тэрыторыі першачарговага асваення, вядзецца работа па прыцягненні ў парк інвестараў з ліку вядомых кампаній.

«Канцэпцыя парку прадугледжвае стварэнне фактычна новага горада, які будзе спалучаць вытворчую, жылую, сацыяльную, адміністрацыйную інфраструктуру. Удакладненая плошча парку складзе 91 кв. км. Планаваная агульная колькасць насельніцтва — 155 тысяч», — далажыў віцэ-прэм'ер.

Паводле яго слоў, ужо ў гэтым годзе плануецца пачаць будаўніцтва першага аб'екта — адміністрацыйна-выставачнага комплексу.

Старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра ў сваім дакладзе акцэнтаваў увагу на неабходнасці зніжэння цаны квадратнага метра зямлі, якая будзе выдзяляцца інвестарам. Аналагічныя паркі ў Еўропе прапануюць участкі з коштам аднаго квадратнага метра прыблізна $50. «Мы павінны набліжацца да $40—45. Тады ў інвестараў будзе цікавасць прыходзіць на гэту тэрыторыю з інвестыцыямі. Думаю, зараз хутчэйшымі тэмпамі пачнём тут рухацца. Нашы праектныя інстытуты пачалі ўжо работу», — адзначыў Шапіра.

На думку памочніка прэзідэнта Кірыла Рудага, умовы работы ў індустрыяльным парку павінны прынцыпова адрозніваццa ад тых, якія існуюць у свабодных эканамічных зонах.

«У парку павінны быць суперсучасныя лабараторыі і працаваць будучыя нобелеўскія лаўрэаты. Так у свеце працуюць такія паркі, яны канкуруюць адзін з адным і хутчэй за іншых імкнуцца прыцягнуць самае лепшае ў свеце», — марыць памочнік прэзідэнта.

Паводле яго слоў, адна з галоўных праблем — гэта тэрміны, і ў рабоце з інвестарамі неабходна больш аператыўна вырашаць тэхнічныя пытанні, паколькі бізнэс не будзе чакаць чатыры або пяць гадоў. У якасці станоўчага прыкладу Кірыл Руды прывёў сумесны праект з кітайскай кампаніяй «Джылі», дзе бакі даволі хутка выйшлі на выпуск прадукцыі.

**Мікола Бугай**

### Сцісла

**У Казахстане разагналі мітынг**

незадаволеных дэвальвацыяй тэнге. Людзі ў былой сталіцы Алма-Аты сабраліся каля Палаца Рэспублікі. АМАП хутка разагнаў людзей, затрымана 30 пратэстоўцаў. Тэнге дэвальвавана на 20%.

**Прэс-сакратаром МЗС стаў Мірончык**

Дзмітрый Міртончык змяніў на пасадзе Андрэя Савіных, які прызначаны паслом Беларусі ў Турцыі. Раней Міронучык працаваў у пасольствах Беларусі ў Германіі і Італіі.

**Саннікаў жорстка выступіў у Вене**

Ён заявіў, што ў Беларусі за кратамі знаходзіцца велізарная колькасць людзей, якія трапілі туды з-за таго, што адстойвалі свае правы. Ён заклікаў прысутных зрабіць усё магчымае для іх вызвалення. Разам з тым Саннікаў раскрытыкаваў некаторыя аспекты дзейнасці АБСЕ. У прыватнасці, справу Мікалая Аўтуховіча, якога першым разам абвінавацілі ў тэрарызме.

**Памёр Збігнеў Рамашэўскі**



13 лютага ў Варшаве ва ўзросце 74 гадоў памёр Збігнеў Рамашэўскі, легенда антыкамуністычнага руху, стваральнік падпольнага радыё «Салідарнасць», шматразовы сенатар. Ягоная дачка Агнешка ўзначальвае тэлеканал «Белсат».

**ЗП**

# Хто набыў самыя дарагія кватэры Мінска?

За сяміпакаёвыя апартаменты летась заплацілі $1 мільён.

Самыя танныя кватэры ў Мінску каштуюць каля $50 тысяч, а вось цана самых дарагіх дасягае нерэальных лічбаў. Леташні рэкорд — амаль мільён даляраў! Хто ж купляе кватэры за такія грошы?

Інфармацыя пра ўгоды куплі-продажу жылля трапляе ў Нацыянальнае кадастравае агенцтва. Цану і нумар дома, у якім была набытая кватэра, можа даведацца кожны ахвотны. «Наша Ніва» супаставіла гэтыя звесткі з дадзенымі пра ўласнікаў жылля.

### З вокнамі на праспект

На праспекце Незалежнасці рэдка будуюцца новыя жылыя дамы. Той, што паўстаў на рагу вуліцы Натуралістаў, з відам на парк Чалюскінцаў, збудавала кампанія «Архітэкс». Элітны дом — адзіны аб'ект гэтай невядомай замежнай кампаніі.

Але менавіта ёй удаецца прадаць самыя дарагія кватэры ў краіне. Напрыклад, сяміпакаёвыя апартаменты плошчай 389 м² сышлі за рэкордныя $998 985 — амаль мільён даляраў!

Яшчэ адну сяміпакаёўку ў тым самым доме прадалі за $696 тысяч (чацвёртае месца рэйтынгу). Але і па плошчы яна меншая — «толькі» 281 м².

Абедзве кватэры набыў адзін пакупнік. Каму не шкада такіх грошай? Іх заплаціла «Кітайская карпарацыя інжынерынгу САМС», якая пачынае будаваць Беларуска-кітайскі індустрыяльны парк. Магчыма, кватэры будуць выдзяляцца як службовае жыллё для замежных топ-менеджараў.

Каго са знакамітых беларусаў можна сустрэць ў двары самага дарагога дома? Напрыклад, галкіпера футбольнага мінскага «Дынама» Аляксандра Гутара ці гандбаліста Сяргея Гарбака, які прамяняў зборную Беларусі на Расію. Альбо поп-спявачку Ганну Шаркунову.



Кватэры ў доме па Незалежнасці, 95а нават даражэйшыя, чым у доме Юрыя Чыжа «Ля Траецкага».

Сяргей Гудзілін

### Чатыры кандыдаты на кватэру

Першыя жыльцы скандальна вядомага дома Юрыя Чыжа «Ля Траецкага» атрымалі ва ўласнасць свае апартаменты яшчэ пазалетась. Але некалькі дзясяткаў кватэр — некаторыя з іх даражэйшыя за $1 мільён — усё яшчэ чакаюць сваіх гаспадароў.

З леташніх угодаў самай дарагой была купля апартаментаў плошчай 239 м² (другое месца рэйтынгу). За яе давялося заплаціць амаль $800 тысяч.

Такіх кватэр летась было прададзена чатыры. Сярод іх новых уласнікаў — казахская кампанія, зарэгістраваная ў Лондане, грамадзянка Расіі, а таксама іранец Хабібалах Махамадзі Чахакі. Ён называўся адным з кіраўнікоў банка «Гандлёвы капітал», на які накладзеныя санкцыі ЗША. Але ўсе яны набывалі кватэры непасрэдна ў «Трайпла», за квадратны метр забудоўшчык бярэ не больш за $3000.

А вось інвестыцыйнае таварыства «Аванта Бізнэс Груп», таксама з рэгістрацыяй у Лондане, перакупляла кватэру ў іншай юрасобы. Імаверна, з нацэнкай.

Яшчэ адну дарагую кватэру ($715 тысяч за 214 м²; гэта трэцяе месца) набыла нафтавая кампанія «БелСіціОйл», зарэгістраваная на мансардзе аднаго з офісных будынкаў у Араздах. Хто яе ўласнік — невядома. Кампанія — адна з тых, што займаліся пастаўкамі растваральнікаў з расійскіх нафтапрадуктаў.

### «Сталінка» для музея

Дорага каштуюць і кватэры ў старых будынках. «Сталінка» насупраць Кастрычніцкай плошчы ў доме Незалежнасці, 28 была прададзеная за $690 тысяч (пятае месца ў рэйтынгу).

Чатырохпакаёўка плошчай 213,9 м² выведзеная з жыллёвага фонду. Яе гаспадары — сям'я Сыраквашаў з Расіі. Муж быў нафтавікам і дробным акцыянерам банка «Масква-Сіці». Пенсію вырашыў сустракаць у Беларусі. Ягоная жонка Галіна даўно выношвала ідэю стварэння інтэрактыўнага музея для дзяцей. «Задума ў тым, каб зрабіць такі музей вучэбным: настаўнікі змогуць праводзіць у ім урокі, а дзеці самастойна вывучаць складаныя тэмы па хіміі, фізіцы, біялогіі. Хочацца, каб сюды прыходзілі ўсёй сям'ёй, як гэта прынята ў іншых краінах», — казала яна ў інтэрв'ю «Савецкай Беларусі». І скардзілася: інвестар знойдзены, а Мінгарвыканкам ніяк не дапамагае з пошукам памяшкання.

### Закуток для «Свету танкаў»

Не нашмат менш, $675 тысяч, атрымаў прадавец шасціпакаёўкі па адрасе Чэхава, 3 (251,6 м²). Гэта ціхі закуток паміж элітнай вуліцай Грыбаедава і праспектам Пераможцаў.

У двары дома можна сустрэць былога капітана футбольнай зборнай Беларусі Сяргея Гурэнку, хакеіста Дзмітрыя Мялешку, дачку былога прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага і нават бацьку былой прэзідэнцкай доктаркі Ірыны Абельскай.

Менавіта тут набыў нерухомасць адзін з топ-менеджараў і акцыянераў Wargaming.net Мікалай Кацалапаў. Галоўны праект кампаніі — папулярная ва ўсім свеце камп'ютарная гульня «Свет танкаў» — прыносіць сваім стваральнікам мільёны даляраў чыстага прыбытку. Адметна, што гэта цалкам прыватны праект, які не атрымаў з дзяржаўнага бюджэту ні рубля.

Дарэчы, Кацалапаў– першы з беларусаў у рэйтынгу! — упадабаў дом даўно. Пазалетась ён купляў на Чэхава, 3 іншую кватэру, удвая меншую.

Сямёрку самых дарагіх кватэр замыкае жыллё, якое набыла грамадзянка Італіі ў доме па адрасе Няміга, 42. Трохпакаёўка плошчай усяго 80 м² каштавала гіганцкіе грошай — $641 тыс. Гэта амаль $8000 за квадратны метр!

Ягор Марціновіч

# Аляксандр Глеб зарабляў у БАТЭ па $130 тысяч у месяц

Складзены рэйтынг заробкаў футбалістаў.

Партал Tribuna.com падрыхтаваў даследаванне: колькі зарабляюць футбалісты беларускага чэмпіянату. Крыніцамі закрытай інфармацыі выступілі менеджары клубаў, футбалісты, трэнеры, агенты — усе тыя, хто здольны праліць святло на таямнічы бок айчыннага футбола. Рэйтынг адлюстроўвае месячны заробак гульцоў у далярах.

Але ў многіх кантрактах значацца так званыя «пад'ёмныя» — фіксаваная сума, якая выплачваецца пры заключэнні кантракта. Для зручнасці гэтыя падпісаныя бонусы былі падзеленыя на колькасць месяцаў кантракта.

Абсалютным лідарам спіса стаў найлепшы футбаліст Беларусі апошняга дзесяцігоддзя Аляксандр Глеб. Каб вярнуць яго на радзіму, барысаўскі клуб БАТЭ паабяцаў паўабаронцу $130 тысяч штомесяц! Прычым гэта чыстыя грошы, пасля сплаты падаткаў. Для чэмпіянату краіны гэта гіганцкія грошы, хоць, напрыклад, у іспанскай «Барселоне» Глеб некалькі гадоў таму зарабляў каля $420 тысяч штомесяц. Для параўнання, самыя высокааплатныя футбалісты свету, Крышціян Раналду і Златан Ібрагімавіч, атрымліваюць штомесяц каля $1,7 мільёна, і гэта без уліку рэкламных кантрактаў.


Глебу гатовыя плаціць любыя грошы.

Цяпер БАТЭ зможа ашчадзіць грошы, бо ўзімку паўабаронца перайшоў у турэцкі клуб «Каньяспор». Дарэчы, Глеба назвалі найлепшым навічком чэмпіянату Турцыі.

Другі ў рэйтынгу — нападаючы таго ж БАТЭ Віталь Радзівонаў, ён зарабляў па $25 тысяч штомесяц. Следам за ім — абаронца мінскага «Дынама» і паўабаронца салігорскага «Шахцёра» Андрэй Хачатуран. Іх зававілі заробкамі па $18 тысяч.

Агулам жа 20 футбалістаў чэмпіянату Беларусі маюць заробак, вышэйшы за $10 тысяч.

ЯМ, інф. Tribuna.com

## Сцісла

### Чыгунка ў аэрапорт запрацуе 7 лістапада

На першым этапе рух будзе арганізаваны па наяўнай чыгуначнай лініі на сучасных дызель-цягніках. Існуючы чыгуначны шлях будзе падоўжаны амаль да самага аэрапорта. Апошнія 550 м да аэрапорта пасажыры змогуць пераадолець на спецыялізаваных аўтобусах з нізкай падлогай або пры дапамозе травалатара (беспрыступкавая дарожка).

### Прамысловая вытворчасць абвалілася на 7,1%

Пра гэта сведчаць звесткі за студзень 2014 года ў параўнанні са студзенем 2013 года. Прычым зніжэнне адбылося практычна ва ўсіх галінах прамысловасці, акрамя здабычы карысных выкапняў, нафтаперапрацоўкі і дрэваапрацоўкі. Асабліва моцна прасела машынабудаванне — падзенне на 19% па вытворчасці станкоў і абсталявання і на 28% па вытворчасці транспартных сродкаў. З улікам такога падзення прамысловасці можна меркаваць, што і ВУП за студзень знізіўся.

### Баўмгертнеру заплацілі $12 мільёнаў

Гэта агульная гадавая «кампенсацыя» былому генеральнаму дырэктару «Уралкалія», які летась быў арыштаваны беларускім КДБ. Грошы ўключаюць у сябе заробак, прэміі, кампенсацыю выдаткаў, а таксама выплаты за звальненне. Цяпер Баўмгертнер знаходзіцца пад хатнім арыштам у Маскве.

### Бабруйскі піўзавод нацыяналізуюць?

Віцэ-прэм'ер Беларусі Міхаіл Русы загадаў разабрацца з прычынамі стратнасці кампаніі «Хайнэкен» у Бабруйску (Бабруйскі піўзавод). «Калі прадпрыемства не атрымлівае прыбытак, значыць, і не плаціць адпаведныя падаткі ў бюджэт. Гэта ненармальна, тым больш для такога вядомага брэнда, як Heineken», — заявіў ён.

ЯМ, СГ

# Распрацоўку беларускіх праграмістаў купілі за $900 мільёнаў

**«Вайбер»** карыстаецца попытам у Азіі.

Кампанія Rakuten, якой валодае трэці па багацці чалавек Японіі Хірошы Мікітані, набыла беларуска-ізраільскі сервіс Viber («Вайбер») за гіганцкія $900 мільёнаў.

Мільярдэр зарабляе на продажах праз інтэрнэт цацак, адзення і электронікі. Аўдыторыю «Вайбера» — а гэта больш за 300 мільёнаў карыстальнікаў, перадусім у Азіі, — ён хоча ўцягнуць у свае старыя сервісы.

Што такое «Вайбер» і прычым тут Беларусь? Праграма дазваляе сваім абанентам весці гутаркі і абменьвацца паведамленнямі, выкарыстоўваючы інтэрнэт-трафік. Плаціць даводзіцца нашмат менш, чым за дарагія міжнародныя званкі. Прычым у «Вайберы» нават не трэба рэгістравацца, абодвум суразмоўцам дастаткова ўсталяваць праграму на тэлефон.

Праграм, падобных на «Вайбер», у свеце многа, але ўдалося раскруціцца менавіта гэтаму праекту. Яго стваральнікі — Ігар Магазіннік і Тальман Марка. Хлопцы пазнаёміліся падчас службы ў ізраільскай арміі.

Магазіннік нарадзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, а трапіў у Ізраіль разам з сям'ёй у пачатку 1990-х.

Спачатку парнёры прыдумалі праграму iMesh для абмену песнямі паміж карыстальнікамі інтэрнэту. А пасля стварылі «Вайбер». У раскрутку праекта ім давялося ўкласці каля $20 мільёнаў — дапамаглі багатыя сваякі. Але інвеставаныя грошы акупіліся напоўніцу.

Каб мінімізаваць падатковыя сплаты, кампанію Viber Media зарэгістравалі на афшорным Кіпры. Офісы адкрылі ў Ізраілі, а таксама ў Беларусі, дзе праграмісты маюць высокі ўзровень ведаў і параўнальна малыя запыты па заробках.

У Мінску і Брэсце цяпер працуюць з паўсотні праграмістаў, якія ствараюць версіі «Вайбера» для розных мадэляў. Сервіс арыентаваны на працу менавіта з тэлефонаў, але нядаўна з'явілася і версія для стацыянарных камп'ютараў.

У Беларусі кампанія зарэгістравалася як рэзідэнт беларускага Парку высокіх тэхналогій. Гэта дае «Вайберу» велізарныя падатковыя льготы.

$900 мільёнаў за праграму — вялізныя грошы, аднак аналітыкі мяркуюць, што стваральнікі «Вайбера» маглі павышаць цану. Напрыклад, папулярную праграму «Скайп» для размоваў праз інтэрнэт дзесяць гадоў таму прадалі за $2,6 мільярда. А праз некалькі гадоў новы гаспадар перапрадаў сервіс нашмат даражэй, ажно за $8,5 мільярда.

**Ягор Марціновіч**



Ігар Магазіннік у Мінску.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Маглі заўважыць, толькі калі «закапала» кроў»

Справай **памерлай у раддоме** настаўніцы заняліся следчыя.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінску пачало праверку па факце смерці ў мінскім раддоме Ганны Якутовіч. Пра гэта паведаміў Андрэй, муж памерлай.

Навіна пра гібель маладой настаўніцы (у №6 ад 12 лютага 2014) выклікала шырокі рэзананс сярод чытачоў. Выпадак актыўна абмяркоўвалі на інтэрнэт-форумах, разважаючы пра магчымыя сцэнары разгортвання падзей.

Нагадаем, паводле словаў дактароў, у Ганны адкрыўся матачны крывацёк. Яна трапіла ў кому, з якой так і не выйшла.

Матачны крывацёк — вельмі небяспечнае ўскладненне, на прафілактыку якога накіравана значная колькасць мерапрыемстваў. Так, паводле клінічных пратаколаў назірання цяжарных, парадзіх, дыягностыкі і лячэння ў акушэрстве і гінекалогіі, у трэці, апошні, перыяд родаў акушэры мусяць упэўніцца, што плацэнта аддзялілася, і агледзець яе — ці не маглі кавалкі паследу, здольныя выклікаць крывацёк, застацца ў матцы.

Пасля наступае ранні пасляродавы перыяд, які доўжыцца 2 гадзіны пасля родаў і падчас якога неабходны пастаянны маніторынг парадзіхі. Гэта менавіта той час, калі «жанчын выкатваюць у калідор» — у такім выпадку, як кажуць некаторыя медработнікі, парадзіха пастаянна знаходзіцца навідавоку, і кожны медык можа заўважыць, калі штосьці не так.

Аднак клінічныя пратаколы мінздароўя прадпісваюць «назіранне за парадзіхай ў радзільным аддзяленні на працягу 2 гадзін пасля родаў (пульс, артэрыяльны ціск, колер скуры і слізістых, памеры, месцазнаходжанне і шчыльнасць маткі, кантроль колькасці выдзяленняў з палавых шляхоў)». То бок пастаянны маніторынг паказчыкаў цягам двух гадзін.

Таму версію з недаглежаным крывацёкам лекар адной з мінскіх бальніц знаходзіць цалкам верагоднай:

«Калі ўсё адбывалася падчас перазменкі, жанчыну маглі не даглядаць належным чынам. У выпадку з матачным крывацёкам можна страціць вялікі аб'ём крыві за кароткі час. Але і буйны крывацёк маглі не заўважыць, калі не праводзілі агляд: жанчына ляжыць на падкладзе, накрытая коўдрай ці дзвюма. Пакуль гэта ўсё набрыняе... Калі «закапала» і крывацёк сапраўды заўважылі, крывастрата магла быць сапраўды крытычнай».

**Кірыла Хілько**

# Мільянер з «чорнага спісу» Еўрасаюза расказаў, як разбагацеў

Рэдкае інтэрв'ю **Анатоля Тарнаўскага**.

Анатоль Тарнаўскі — адзін з самых непублічных бізнэсменаў Беларусі. Супраць трох ягоных кампаній, у тым ліку «Юнівест-М», Еўрасаюз увёў санкцыі ў 2012-м. Тарнаўскага лічылі блізкім да ўлады. Ён рэалізоўваў многія праекты разам з Прэзідэнцкім спартыўным клубам, які ўзначальвае Дзмітрый Лукашэнка. А ягоная жонка Ганна была ў «Юнівест-М» дырэктарам па маркетынгу.

Летась Тарнаўскі вырашыў даць інтэрв'ю карпаратыўнаму часопісу крамы гадзіннікаў.

**— Інфармацыі пра Вас у інтэрнэце зусім няшмат. Не расказваць пра сябе — Ваша пазіцыя ці збег абставінаў?**

— У свой час мне даводзілася даваць шмат інтэрв'ю. Асабліва ў тыя далёкія гады, калі мы працавалі над засваеннем Заходняй Сібіры. Зносіны з прэсай тады былі неабходнасцю: трэба было пераканаць людзей, што на прасторах тундры вырастуць гарады, паселяцца людзі, народзяцца дзеці... Мала хто верыў у гэта, даводзілася зноў і зноў даказваць слушнасць сваіх задум, расказваць аб праектах, пераконваць.



Потым надышлі «ліхія» 90-я, калі чым менш інфармацыі «прасочвалася» ў СМІ, тым спакайней гэта было для цябе, для бізнэсу, для тваёй сям'і. Тады само жыццё прымушала зводзіць любыя кантакты з журналістамі да мінімуму.

**— Вы — заснавальнік і ўладальнік групы паспяховых кампаній. А з чаго пачынаўся ваш самы першы бізнэс?**

— Калі бізнэс — гэта тое, што прыносіць прыбытак, то сваю першую справу я пачаў яшчэ ў дзяцінстве. Я нарадзіўся ў Керчы, у рабочай сям'і. Тата — кіроўца, мама — хатняя гаспадыня. Для мяне заўсёды сям'я, бацькі былі прыкладам, узорам для пераймання. Разам з бацькам (а ён у дзевяць гадоў навучыў мяне кіраваць машынай) мы ездзілі ў калгас на ўборку збожжавых. Працаваў грузчыкам, заробак працадні, за працадні атрымліваў пшаніцу, потым везлі яе на млын — частку мукі пакідалі сабе, частку прадавалі. Вось гэта і быў мой першы бізнэс. Менавіта тады я навучыўся не толькі зарабляць грошы, але і рупліва ставіцца да заробленага.

Мой першы сур'ёзны бізнэс пачаўся ў Заходняй Сібіры. Калі разваліўся СССР, пачалі арганізоўвацца таварна-сыравінныя біржы. На заробленыя на Поўначы грошы я тады купіў акцыі Цюменскай біржы, пачаў купляць і тут жа прадаваць сыравіну, матэрыялы, якія карысталіся попытам. Потым мы ўвайшлі ў нафтавы бізнэс — так і пайшло...

У 1998 годзе я прыйшоў у «Слаўнафта», працаваў віцэ-прэзідэнтам, потым першым віцэ-прэзідэнтам. Курыраваў бізнэс кампаніі ў Беларусі. Мазырскі завод і яго рэканструкцыя, перапрацоўка нафты, арганізацыя АЗС — усё гэта было маімі абавязкамі. Потым «Слаўнафту» выставілі на таргі, і яе купілі нафтавыя кампаніі «СібНафта» і «ТНК». Тады я сышоў з кампаніі, пачаў займацца прыватным бізнэсам, была створаная кампанія «Юнівест». Прыкладна ў гэты ж час мы выйшлі на беларускі рынак. Пастаўлялі нафту, перапрацоўвалі, частку прадавалі заводам.

Але каб атрымаць найбольшую эфектыўнасць, бізнэс павінен быць рознабаковым. Так з'явіліся будаўнічы і рэстаранны напрамкі. І ўсе гэтыя бізнэсы «выцеклі» з першага — нафтавага.

**— Ці ёсць у Вас хобі, не звязаныя з працай?**

— Для мяне любімае і галоўнае хобі — гэта свабодныя зносіны з сябрамі. У нас ёсць «святы» дзень — нядзеля. А восьмай раніцы мы сустракаемся ў лазні і аддаем максімум часу зносінам і лазневым рытуалам па ўсіх правілах. Ну і рыбалку люблю. Не летнюю — зімовую, падлёдную.

**— Як Вы ставіцеся да раскошы? Якімі крытэрамі кіруецеся пры выбары гадзіннікаў, адзення, аўтамабіля?**

— Да раскошы сябе прывучаў доўга. Бо якая раскоша на той жа Поўначы? Добрыя сабачыя унты, сабачая (андатравая так не грэла) шапка і дублёны нагольны кажух — вось і ўся раскоша. Зручнасць і цяпло — галоўныя крытэры былі ва ўсім. Потым, у 90-я, сталі бізнэсоўцамі. Вучыліся разбірацца ў дарагіх рэчах, бо нават у банку нас ацэньвалі па туфлях і гадзінніках! Трэба было прытрымлівацца таемных правілаў, каб паднесці сябе, каб цябе прынялі. Па-іншаму было нельга. Адзінае, да чаго не прывык да гэтага часу, — дык гэта да паходаў па крамах. Для мяне гэта сапраўднае пакаранне. Ідэальны для мяне варыянт — тэлефанаваць у вядомую мне краму і дамаўляцца, каб да вызначанага часу падрыхтавалі ўсё, што ёсць майго памеру. Гэта можа быць Canali, Brioni — тое, што падыходзіць. Любімая марка аўтамабіля — Mercedes, С-клас. Лічу, што гэта самая надзейная машына і па якасці, і па зручнасці. Ёсць і Bentley, але гэта для ўнукаў. Для «форсу», не для работы. У маім разуменні нават раскоша павінная быць функцыянальнай. Я на гэтым настойваю. Заўсёды.

Што да гадзіннікаў, пачынаў я з Patek Philippe. Потым былі іншыя маркі, але з усімі адна гісторыя: спыняюцца. Швейцарскія майстры разводзяць рукамі і кажуць, што ў мяне занадта моцная энергетыка. Даводзіцца верыць...

**Паводле: Ганна Кручоных, Наталля Мікулік, timecity.by**

Папярэдняя прычына — **спынілася сэрца.**

# У Кітаі памёр беларус-мадэль

Беларус-мадэль Аляксандр Буцько (Дайманд) адправіўся ў Паднябесную на працу. Але праз два тыдні пасля прылёту, 7 лютага, раптоўна памёр. Яму было 23 гады.

Гэта быў не першы Сашаў досвед працы ў Кітаі. Хлопца можна ўбачыць у беларускіх рэкламных роліках. Малады, падцягнуты... То ён пахруствае чыпсамі ў атачэнні такіх жа накачаных хлопцаў, то рэкламуе сок. І вось з Кітая прыйшла нечаканая навіна — спынілася сэрца. Дакладная прычына смерці пакуль невядомая.

### Перад смерцю атруціўся

Аляксандр памёр на руках у мадэлі Улада. Ён запомніў той дзень у дэталях. «Мы схадзілі ў спартыўную залу, але не займаліся — планавалі з наступнага дня ўзяць абанемент. Пасля паабедалі, прагуляліся. І калі вярталіся ў гатэль, прабеглі 20-30 метраў. Саша спыніўся аддыхацца. Я зайшоў, павярнуўся і ўбачыў, што ён у нейкім неадэкватным стане пайшоў крыху налева ад увахода — проста на шкло. Пасля стукнуўся і паваліўся. Я падбег, а ён спрабаваў ухапіць паветра, зрэнкі закаціліся. Занёс яго ў гатэль, выклікалі «хуткую дапамогу». Што я ні рабіў, пульсу ў яго не было».

Улад прыгадвае, што за пару дзён да смерці Аляксандр чымсьці атруціўся. Два-тры дні яму было кепска, а пасля нібыта ачуняў. «Але магчыма, гэта было не проста атручанне (бо мы разам аднолькава харчаваліся), а нейкі сімптом.



Вынікаў ускрыцця яшчэ не было... Саша быў пазітыўным чалавекам. Мы разам будавалі планы на жыццё. Хацелі расці ў сферы шоу-бізнэсу — выйсці на вышэйшы ўзровень. Каб не толькі ў Кітаі заставацца», — з горыччу прыгадвае мадэль.

«Наша праца заключаецца ў тым, каб прайсціся туды-сюды па сцэне. Выступленне займае не больш за 3-4 хвіліны, у нас адно-два шоу на дзень. Адпаведна, працоўны дзень складае максімум 10 хвілін, астатні час — рэпетыцыі і вольны час», — кажа мадэль Віктар з Украіны. Ён таксама працаваў разам з беларусам. Жылі хлопцы ў гатэлі, які наймаў клуб. Але праца ў Паднябеснай была нелегальнай. Мадэлі паехалі туды без кантрактаў і без страховак.

«Праца, як і ва ўсіх еўрапейскіх артыстаў, у Кітаі — нелегальная. Ніякіх кантрактаў не было: усё абгаворана з клубам, з менеджарам. Дэталі абмяркоўваліся ў перапісцы. І калі была дасягнута згода, мы прыляцелі», — расказвае Віктар. Ён заўважае, што раней ездзілі па працоўных візах, а ў гэты раз адправіліся па турыстычнай — яе прасцей атрымаць.

### Шмат працаваў перад люстрам

Яўген Давідсан пазнаёміўся з Аляксандрам Буцько, калі той упершыню прыйшоў у Нацыянальную школу прыгажосці ў 2009-м. І быў сведкам яго сталення ў прафесіі. «Ён туды прыйшоў амаль выпадкова — прывёў сябар. І ў Сашы адразу абсалютна нічога не атрымлівалася ў дэфіле. Гэта асноўная дысцыпліна ў мадэльнай справе. І ён заставаўся пасля заняткаў амаль да самай ночы, сам працаваў перад люстэркам. Затое на выпускным выглядаў ледзьве не ідэальнай прафесійнай мадэллю».

Яўген кажа, што беларускія мадэлі часта едуць працаваць за мяжу праз тое, што ў Беларусі гэты бізнэс толькі ў зародкавым стане — зарабіць на прывольнае жыццё амаль немагчыма. Але і за мяжой не заўжды іх чакае ўсё найлепшае. «Нашыя хлапцы і дзяўчаты рвуцца ў ЗША, Германію, Італію альбо на другі мадэльны фронт — у Кітай, Японію, Паўднёвую Карэю. Едуць напаўлегальна: без страховак і па турыстычных візах. Часам сядзяць там галодныя, без жытла, без працы... Многія дзяўчаты скончваюць у эскорце і занятках прастытуцыяй. Але для беларускага мадэльнага бізнэсу Саша быў надзвычай паспяховы і запатрабаваны».

Пасля смерці Аляксандра Буцько яго сябры адразу пачалі збіраць грошы на вяртанне цела на радзіму: страхоўкі ж не было. За лічаныя дні назбіралі тысячы даляраў. «Сашава мама хворая на сэрца і не зможа прыляцець у Кітай. Перавоз цела адтуль каштуе $30—35 тысяч. Але тады яно будзе знаходзіцца ў цынкавай труне, і ў Беларусі яе нельга ўскрыць. Таму зробяць крэмацыю, разам з перасылкай на радзіму гэта будзе каштаваць $6—7 тысяч. Грошы ўжо сабралі», — тлумачыць Улад.

Прах беларуса прывязуць у Мінск не раней чым у канцы лютага.

**Сяргей Макарэвіч**

**Пахавалі ў калумбарыі**

У верасні 2013-га падчас вандроўкі па Пакістане загінула аўтарка «Нашай Нівы» Кацярына Безмацерных з мужам Аляксеем Ілюшыным. Яны кіраваліся ў Індыю, калі грузавік, у якім ехалі, з дарогі з'ехаў у прорву (падрабязней пра трагедыю «НН» пісала ў №38 ад 9 кастрычніка 2013). Была затрымка з вяртаннем целаў. Як паведаміла мама Аляксея, сын у выніку пахаваны ў вёсцы Рандоўка ў Гомельскім раёне. А Кацярына — на мінскім калумбарыі, месца 51.

**$30 і адзін тыдзень**

Каб беларусу атрымаць кітайскую візу для працы, трэба звярнуцца ў консульства КНР у Мінску: падаць запрашэнне, дазвол на працу, арыгінал і копію кантракта. Натуральна, пашпарт, анкету, фотаздымак. А вось страхоўку не просяць. Выдаецца аднаразовая віза на 3 месяцы (пасля ў Кітаі можна яе працягнуць). Консульскі збор складае $30. Віза будзе гатовая праз тыдзень. Турыстычная віза каштуе столькі ж.

Страхоўка ў Кітай на 90 дзён для турыста абыдзецца ў $46, калі едзеце працаваць — $61.

# У страшнай аварыі пад Вілейкай загінула сям'я

**8-гадовая дзяўчынка засталася** без мамы, таты і брацiка.

Аварыя адбылася 16 лютага каля вёскі Ерхі ў Вілейскім раёне на трасе Мінск—Мядзел. Каля 18 гадзін «Фальксваген Бора» выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з «Опелем Зафіра». Удар быў такі моцны, што белую «Зафіру» проста запырскала крывёй.

41-гадовы кіроўца «Фальксвагена» ехаў з сям'ёй брата: муж з жонкай, аднагадовы сын і 8-гадовая дачка. У гэтым аўто выжыла толькі дзяўчынка. З пераломамі і іншымі траўмамі яна знаходзіцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане. У «Опелі» пацярпелі муж з жонкай — яны таксама ў бальніцы.

За пару гадзін да трагедыі акурат пайшоў мокры снег. На «Бора» задняя гума была зношанай. Перад аварыяй машыну занесла і адкінула на сустрэчную паласу. І ў гэты момант у бок ёй ўрэзаўся «Опель».

У салоне «Фальксвагена» не было дзіцячага крэсла, а немаўля маці перавозіла на руках.

Заведзена крымінальная справа за парушэнне Правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць некалькіх чалавек.

**Кастусь Матушыч**



MVD.GOV.BY

### Вышук



**Надурыў 40 разоў**

32-гадовы мінчук здаў 40 разоў аднапакаёўку маці на вуліцы Шаранговіча. Ён браў перадаплату ад $300 да $1500 і пісаў распіскі. А затым знікаў. Калі Вы пацярпелі ад чалавека на фота, звяртайцеся на: (017) 208-76-47, (029) 343-59-40.



**Знік з аўтарынку**

Грамадзянін Расіі Уладзімір Старыкоў знік у маі 2013. Тады ён часова пражываў у Мінску. Апошні раз яго бачылі на сталічным аўтарынку «Малінаўка». Прыкметы: 60-65 гадоў, рост 170-175 см, валасы сівыя, з лысінай. Хто ведае месцазнаходжанне расіяніна, звяртайцеся на: (017) 218-75-48, (029) 198-40-45.

### Сцісла

**Маці падазраецца ў забойстве сына**

Адсутнасць дома 6-гадовага сына заўважыў яго бацька, калі вярнуўся з працы пасля начной змены. Ён і пайшоў у міліцыю. Цела хлопчыка знайшлі закапаным на прысядзібным участку. А ў забойстве прызналася 33-гадовая маці.

**Скочыла з моста**

У Жлобіне 32-гадовая жанчына скочыла з пешаходнага моста на чыгуначным вакзале. Загінула на месцы. Мяркуецца, што гэта суіцыд. Праводзіцца праверка.

**Універсітэцкія выкладчыкі трапіліся на хабары**

Кіраўнік адной з кафедраў і выкладчык БНТУ за грошы прымалі экзамены і курсавыя работы. Бралі толькі ў валюце. Цяпер могуць адправіцца за краты на сем гадоў.

**Труп немаўляці ў тахце**

Дзяўчына з Чачэрскага раёна трапіла ў бальніцу з пасляродавымі сімптомамі. Але адмаўляла, што нараджала. Праўда, у яе кватэры міліцыянты знайшлі труп немаўляці, схаваны ў тахце. Дзяўчына жыла з бацькамі, цяжарнасць ад іх хавала.

**Не схаваўся і ў Ліпецку**

Супрацоўнікамі расійскай паліцыі ў Ліпецку затрыманы магілёвец, які чатыры гады знаходзіўся ў міждзяржаўным вышуку за крадзеж амаль $400 тысяч. Калі ён працаваў у беларускім банку, у 2010 перавёў сабе на картку 1,5 мільярда рублёў і збег. Цяпер чакае дэпартацыі.

**КМ**

# 23-гадовая гімнастка Ксенія Санковіч

Хто лётаў у Сочы з мультымільянерамі?



### «Свая» ў салідных кампаніі

Хакейны трэнер Міхаіл Захараў, сьвятар Фёдар Поўны, тэнісны трэнер Сяргей Цяцерын, мільянеры Аляксандр Шакуцін і Юрый Чыж... — склад «каманды», з якой Аляксандр Лукашэнка выязджае на гарналыжны адпачынак.

Але на сьвяточным «чаяпіцці» ў гонар перамогі біятланісткі Дар'і Домрачавай сярод гасцей можна было пабачыць новы твар. У салідных кампаніі апынулася гімнастка Ксенія Санковіч. Прычым дзяўчына не проста сарамліва ўсміхалася ў баку, а нават прамовіла тост.

«За жанчын, у якіх ёсць мужчынскі характар! Таму ў добрым сэнсе ўсім вам, дзяўчаткі, якія сёння змагаліся, у нейкай ступені таксама мець мужчынскую жылку, якая дапамагае вам перамагаць», — узняла келіх Ксенія Санковіч.

### Алімпійская прызёрка

Спартыўныя дасягненні Ксеніі добра вядомыя заўзятарам. На летняй Алімпіядзе ў Пекіне яна выйграла бронзавы медаль, а ў Лондане — срэбра. Абедзве ўзнагароды Санковіч атрымала ў групавых практыкаваннях па мастацкай гімнастыцы.

Цікавы і фінансавы аспект паспяховых выступленняў. Перамогі прынеслі гімнасткам $30 тысяч у 2008 годзе і $75 тысяч у 2012-м.

Цяпер Ксеніі ідзе 24-ы год. Для мастацкай гімнасткі гэта замнога, таму ў канцы 2012-га дзяўчына скончыла кар'еру, саступіўшы пляцоўку маладзейшым.



Былы самбіст Уладзімір Япрынцаў, Ксенія Санковіч і Юрый Чыж (справа).

### Гімнастка-мільянерка

Калі ў пошукавай сістэме Google набраць па-руску «Ксенія Санковіч», разумная машына адразу выдасць падказку «... і Юрый Чыж». Чаму? Гуглу лепш ведаць.

Але пэўную сувязь гімнасткі з самым багатым беларускім бізнэсоўцам можна знайсці. Санковіч пазалетась набыла кватэру ў скандальна вядомым доме «Ля Траецкага», які будаваў «Трайпл» Юрыя Чыжа.

Цяпер гімнастка — уласніца гіганцкай аднапакаёўкі са свабоднай планіроўкай. 223 м² агульнай плошчы — гэта амаль як пяць стандартных мінскіх двухпакаёвак. Рынкавая цана такой кватэры, калі паглядзець аналагічныя прапановы, можа сягаць $750 тысяч.

Чаму яна вырашыла набыць кватэру менавіта ў гэтым доме? «Складана адказаць. Неяк захацелася, вось і набыла», — прызналася Санковіч карэспандэнту Tribuna.com.

Але ў новай кватэры гімнастка пакуль не жыве. Усё ж рамонт — доўгая справа. Ды й жыллё «Ля Траецкага» — не адзіная нерухомасць Ксеніі.

Некалькі гадоў таму яна стала гаспадыняй трохпакаёўкі ў адным з новых дамоў па вуліцы Прытыцкага, каля станцыі метро «Кунцаўшчына». Тая кватэра ацэньваецца на рынку мінімум у $110 тысяч. Вядома ж, пры будаўніцтве яна каштавала Санковіч значна танней.

Як мінімум $860 тысяч нерухомасці — добры пачатак для маладой дзяўчыны.

### Тата-рэкардсмен і тата-адвакат

У Ксеніі Санковіч не простыя бацькі. Яе тата Андрэй Санковіч калісьці сам займаўся спортам. Яго нацыянальны рэкорд па скачках у вышыню дагэтуль не пабіты.

У 1993-м Санковіч-старэйшы скочыў на 2,34 м. Аднак кар'ера ў спартоўцаў нядоўгая, таму Андрэй у выніку абраў больш перспектыўную прафесію — адваката.

У 2011-м Санковіча абіралі старшынёй Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Аднак Міністэрства юстыцыі прызнала сход нелегітымным, на хвалі ціску на адвакацкую супольнасць.

Дарэчы, Андрэй Санковіч абараняў у судзе фігуранта крымінальнай справы аб масавых беспарадках Дзмітрыя Новіка. Хлопец часткова прызнаў віну і быў асуджаны на 3,5 года. Праз паўгода ён быў вызвалены.

### Студэнтка года

Ксенія вырашыла пайсці па шляху бацькі. Сёлета яна давучылася на юрыдычным факультэце БДУ. Прычым адукацыю атрымлівала на дзённай форме навучання. Праз спаборніцтвы экзамены часцяком даводзілася здаваць са спазненнем, прызнавалася яна.

Для ўніверсітэта такія студэнты — знаходка, бо спартыўныя спаборніцтвы паміж ВНУ ніхто не адмяняў. Не дзіва, што падчас вучобы Ксенія атрымлівала ўзнагароду «Студэнтка года» ў намінацыі «Спорт».

**Ягор Марціновіч**




Падары каханым

# Шклоў, Клічаў і Горкі

Гарады, дзе трэба шукаць жаніхоў.

У Беларусі ўсяго ў трох гарадах колькасць мужчын перавышае колькасць жанчын. Гэта Шклоў, Клічаў і Горкі.

Усе пералічаныя населеныя пункты знаходзяцца ў Магілёўскай вобласці. Агулам жа мужчыны складаюць 46,5% ад агульнага насельніцтва краіны.

**ЯМ**



Камертон Сяргея Ваганава

# Пачварства і помнікі

Калі скандал вакол помніка «Мужнасць», што ў Брэсцкай крэпасці, дасягнуў найвышэйшай вісклівай ноты, я ўспомніў, як у сакавіку 2008 года Францыя развіталася з апошнім жаўнерам Першай сусветнай вайны. Яго звалі Ладзара Панцічэлі. Яму было 110 гадоў.

Ладзара Панцічэлі доўга адмаўляўся ад прапановы зладзіць яму пахаванне нацыянальна-дзяржаўнага маштабу. Ён казаў, што «гэта будзе абразай для ахвяр Першай сусветнай, якія не былі так ушанаваны». Потым пагадзіўся — «у імя ўсіх жанчын і мужчын, што загінулі ў Першай сусветнай вайне...»

Гэта была сапраўды нацыянальная цырымонія: прыспушчаныя па ўсёй краіне дзяржаўныя сцягі, хвіліна маўчання ва ўсіх дзяржаўных установах, імша ў саборы Сен-Луі Дома Інвалідаў з удзелам двух прэзідэнтаў — былога і тагачаснага, усіх чальцоў урада і нават міністра абароны Італіі, бо грамадзянін Францыі Ладзара Панцічэлі быў італьянцам па паходжанні...

Аніякай помпы, аніякага эрзац-патрыятычнага пафасу. Толькі смутак. Толькі малітва. Толькі апошняе «бывай». І апошняе «выбачай»...

Я не ўпэўнены, што праз колькі гадоў мы такім жа чынам развітаемся з апошнім беларускім жаўнерам Другой сусветнай вайны.

Гаворачы «такім чынам», я маю на ўвазе развітанне не толькі з апошнім жаўнерам, але і з вайной як крыніцай патрыятычных пачуццяў.

Падобна на тое, што такога развітання не будзе.

Падобна на тое, што ва ўладных кабінетах загадзя будуць рыхтавацца спісы «апошніх», каб абраны для цырымоніі ветэран цалкам адпавядаў «задачам военно-патриотического воспитания».

Падобна на тое, што такім чынам падоўжыцца «абраза ахвяр».

Аднак вернемся да савецкай «Мужнасці».

Не трэба звышінтэлектуальнага напружвання, каб зразумець, што залічэнне журналістамі CNN гэтага помніка ў спіс «пачварных» не выходзіла за межы іх эстэтычных уяўленняў пра сэнс прыгажосці. Ніякай абразы тых, каму ён падабаецца, у гэтым не было — спрэчка пра густы бясконцая...

> **Яна вельмі вострая, гэта праўда. Праўда пра крывавую трагедыю кінутага гарнізона**

Падобная спрэчка, дарэчы, адбывалася ці не ад самага стварэння мемарыяла «Брэсцкая крэпасць».

«Агромністая бетонная кампазіцыя «Мужнасць», што ўсталявана ў самым цэнтры комплекса.., душыць несуразмерную ёй прастору цытадэлі...» — ці не самая лагодная мастацтвазнаўчая ацэнка скульптуры.

Але яна душыць не толькі прастору цытадэлі. Яна душыць праўду.

Ніколі не забуду, як увосень 1956-га мы ўсім класам упершыню трапілі ў Брэсцкую крэпасць.

Мы ішлі да крэпасці па хісткім мосце, асцярожна абыходзячы правалы ў драўляным насціле. Я ўхапіўся за адлітыя, здавалася, на стагоддзі круглыя чыгунныя парэнчы і зараз жа раздзёр руку да крыві — на ўсім працягу яны былі парваны асколкамі, што павыварочвалі вострыя па краях дзіркі...

Яна вельмі вострая, гэта праўда. Праўда пра крывавую трагедыю кінутага гарнізона. Праўда, на доўгія гады кінутая ў нябыт...

А ці не душыць праўду мемарыял на Мамаевым кургане, каторы Віктар Някрасаў называў «жудасным залачоным нагрувашчваннем мускулаў і безгустоўнасці»? І лічыў абразай для жаўнераў ягонага 1047-га стралковага палка 284-й стралковай дывізіі, чые косткі ляжаць якраз на тым месцы, дзе ўзвышаецца нешта зусім не падобнае ні на радзіму, ні на маці...

Урэшце рэшт, непрыманне падобнай эстэтыкі прывяло аўтара «У акопах Сталінграда», першай у СССР праўдзівай аповесці пра вайну, да непрымання самой таталітарнай дзяржавы...

Але з чаго сёння, праз дзясяткі гадоў, узнікла такая нервовая рэакцыя розных палітыкаў, службовых асоб і дзяржаўных устаноў Расіі і Беларусі? Ажно два МЗС спрычыніліся да надзімання мыльнай бурбалкі. А нават такі разумнік, як сп. Швыдкі, спецпрадстаўнік расійскага прэзідэнта па міжнародных культурных сувязях, з лісліваым крывадушшам раптам акультурыў, так бы мовіць, «праблему»: «...любы помнік, прысвечаны вайне, знаходзіцца за межамі эстэтычных катэгорый...». Што іх так зачапіла? Што напалохала?

Перадусім, на мой погляд, адно: калі прызнаць пачварнай эстэтыку помніка, давядзецца прызнаць пачварнай ідэалогію, якая гэту эстэтыку спарадзіла.

На сёння — ідэалогію так званай «дзяржаўнасці», а ў яе межах — так званага «дзяржаўнага патрыятызму».

Ідэалогію, якая не толькі не знікла, але ў розных праявах — ад сталінізму да неанацызму — набывае агрэсіўную моц.

Ідэалогію, у якой «жывыя і мёртвыя» — найбольш звыклае, зручнае і добра апрацаванае прыстасаванне для замацавання ўлады.

Лепш мёртвыя. Бо час ужо адлічвае жывых да апошняга. А мёртвыя нічога не скажуць у адказ.

*kamerton_41@mail.ru*

# Мова гэтай зямлі

## Каталонскі прэцэдэнт для беларускай мовы

Інтэрв'ю з **Ёрдзі Бакардзітам**, сакратаром старшыні Левай рэспубліканскай партыі Каталоніі пра гісторыю заняпаду і ўваскрасення каталонскай мовы.

Інтэлектуалы, абыякавыя да беларускай мовы, любяць параўноўваць Беларусь з Ірландыяй. Яны думаюць, што беларуская мова застанецца гаворкай абсалютнай меншасці, захаваецца як мова-сімвал, а не жывая стыхія. Ірландыя стала незалежнай, але размаўляе па-англійску.

Гэткі варыянт задавальняе тых, каму беларуская мова не любая і не дарагая, для каго гэта ўсяго толькі мовы працы, мова чужая, якая ў іх сэрцы нічым не адгукаецца.

Дзяржаўная незалежнасць выгадная ўсім, а вось мова... Значэнне сваёй мовы як «кода супольнасці», таго, што робіць нас непаўторнымі, разумеюць не ўсе.

Я веру, што беларусы не будуць як ірландцы, а некалі паўтораць прыклад каталонцаў. Бачу для таго дзве перадумовы.

**Па-першае**, вяртацца да беларускай з расейскай лёгка, бо мовы падобныя. Так было і з іспанскай і каталонскай, а ў выпадку англійскай і ірландскай — наадварот. Мова кельцкая складаная, і гэта было перашкодай.

**Па-другое**, заняпад і беларускай, і каталонскай моваў прыпаў на перыяд аўтарытарызму, пры якім улада не гаварыла на роднай мове (колькасць людзей, якія гаворыць дома па-беларуску пры Лукашэнку рэзка паменшала: з 37% у 1999 да 23% у 2009 (звесткі перапісаў).

Пасля здабыцця свабоды і дэмакратыі каталонская мова перажыла адраджэнне. Гэта адбылося не «само сабой», а ў выніку ўпартай працы інтэлігенцыі і чыноўнікаў. Гэта было свядомым выбарам нацыянальнай эліты, якая патлумачыла вартасць такога шляху грамадству. А як будзе ў нас? Пабачым, дыктатуры ж не вечныя.



Барселона — сталіца Каталоніі. Горад на Міжземным моры, надзвычайнай прыгажосці.

**Па-трэцяе**, Каталонія была індустрыяльным, больш развітым арганізмам у параўнанні з Іспаніяй, гэтак жа і Беларусь у многіх сэнсах была і застаецца больш перадавой краінай, чым Расія, метраполія расійскай мовы.

**Па-чацвёртае**, нацыянальныя эліты і Каталоніі, і Беларусі маюць патрэбу ў мове для самаідэнтыфікацыі — у большай ступені, чым ірландцы, якіх ад англічан аддзяляла найперш рэлігія.

**Па-пятае**, у каштоўнасцях беларусаў мы назіраем зародкі таго ж, што напоўніцу праявілася ў Каталоніі пасля падзення Франка. Сацыёлагі выявілі, што большасць беларусаў хацелі б і самі гаварыць па-беларуску больш, і каб мовы было больш у публічнай прасторы. Мову любяць нават тыя, хто яе не ведае.

Каталонія — гэта натхняльны прыклад адраджэння.

Вельмі важна, што нашчадкі людзей, якія не ў Каталоніі нарадзіліся, людзей іншай крыві, збольшага падтрымалі такі выбар. Бо ім стала ясная важнасць, каб захавалася *мова гэтай зямлі*. Пра гэта хораша і вельмі рацыянальна апавядае ў сённяшнім інтэрв'ю Ёрдзі Бакардзіт — адзін з лідараў левай нацыяналістычнай партыі, якая ўваходзіла ў шматлікія ўрадавыя кааліцыі ў каталонскай аўтаноміі і цяпер застаецца адным з рухачоў ідэі поўнай незалежнасці рэгіёна.

Важна, што развіццё каталонскай мовы не ішло шляхам адпрэчвання іспанскай. Яно было ў дадатак.

### Каталонская мова робіць нас адметнымі, вылучае і яднае нас, а іспанская культурна ўзбагачае нас і адкрывае для нас рынкі

**— Колькі людзей цяпер гавораць па-каталонску ў Каталоніі? А як было пры Франка? Якія агульныя тэндэнцыі?**

— Ва ўсіх краінах, незалежна ад таго, дзе яны знаходзяцца, на публічнае выкарыстанне той ці іншай мовы на нейкай тэрыторыі ўплываюць два фактары: дэмаграфія насельніцтва і дзяржаўная палітыка. І апошняя адыгрывае найважнейшае значэнне. Асабліва пасля XX стагоддзя, калі дзяржавы ўмацаваліся, калі яны ўзялі пад свой кантроль школьніцтва, СМІ і вялікую долю эканомікі. Таму, хоць каталонскія інстытуцыі былі ліквідаваны ў 1716 годзе і тады ж каталонская мова страціла свой афіцыйны статус, толькі пры дыктатары Франка (1939—1975) сфера ўжытку каталонскай мовы стала рэзка звужацца.

Каталонскай мовы не было ў адміністрацыі, у сістэме правасуддзя, у школах, у СМІ і ва ўсіх астатніх публічных сферах. Адзінай афіцыйнай мовай была іспанская.



**Рэферэндум пра незалежнасць**

Каталонцы прызначылі яго на 2014 год, але цэнтральныя ўлады Мадрыда не даюць на яго дазвол. Зверху — герб Каталоніі.

Да таго ж, у канцы 1950-х і ў 1960-я Каталонія прыняла вялікую хвалю мігрантаў з поўдня Іспаніі — Андалусіі і Эстрэмадуры. У выніку, па стане на 1970 год, за пяць гадоў да смерці Франка, 38% жыхароў Каталоніі былі родам не з Каталоніі! У выніку і ўжыванне, і веданне каталонскай мовы драматычна падалі.

Нягледзячы на гэта, мова выжыла, дзякуючы тром чыннікам.

Па-першае, былі людзі, якія зацята гаварылі па-каталанску — дома, але часам і ў публічнай сферы.

Па-другое, многія героі выпускалі падпольныя ўлёткі і кнігі па-каталонску, хоць гэта было небяспечна.

Па-трэцяе ж, і каталонцы, і прыезджыя аказаліся дастаткова мудрымі. Першыя прымалі прыбышоў як роўных, без агрэсіі. А другія былі ўдзячныя каталонскаму грамадству за прыём і працу, за высокую якасць жыцця. І вось дзякуючы такой няўлоўнай добрай волі і цярпімасці, вынікла ідэя, што ўсе, хто жыве ў Каталоніі, — гэта каталонцы, што мы адзіны народ.

У выніку неўзабаве пасля смерці Франка (1975) была адноўлена дэмакратыя (1978), а з ёй і аўтаномны статус Каталоніі. І на той хвалі большасць жыхароў Каталоніі — як каталонскамоўныя, так і іспанскамоўныя — выступілі за падтрымку каталонскай мовы. За 80-я і 90-я гады прагрэс быў такі хуткі, што амаль 100% жыхароў Каталоніі навучыліся разумець каталонскую мову і гаварыць на ёй.

Праўда, у канцы 90-х пачалася новая хваля іміграцыі — цяпер ужо з Марока, Усходняй Еўропы, Паўднёвай Амерыкі і Азіі — і доля людзей, якія ведаюць каталонскую, трохі знізілася.

### Каталонская школа, каб ураўнаважыць

**— Калі верыць Вікіпедыі, у штодзённым жыцці невялікая большасць жыхароў Каталоніі ўсё ж аддае перавагу іспанскай, а не каталонскай мове. А мясцовыя органы ўлады пры гэтым працуюць на каталонскай? Як гэта арганізавана? На якой мове яны гавораць з наведнікамі?**

— Так, аднаўленне каталонскай аўтаноміі было паваротным момантам у лёсе мовы. Спачатку каталонская мова атрымала роўныя з іспанскай правы. А падругое, быў палітычны кансэнсус, каб дапамагчы каталонскай мове стаць роўнай. Таму парламент Каталоніі і распрацаваў адпаведную палітыку, каб мова змагла адрадзіцца.

Што гэта за палітыка? Пачатковае і сярэдняе навучанне ў Каталоніі вядзецца толькі пакаталонску. Гэта забяспечвае так званае «пагружэнне ў мову». Гэта было задумана адмыслова, каб ураўнаважваць уплыў іспанскай мовы. Бо ж па-іспанску працуюць усе цэнтральныя тэлеканалы, па-іспанску служаць у арміі, на ёй гаворыць цэнтральная адміністрацыя. А так, дзякуючы школе, усе дзеці ў Каталоніі навучаюцца валодаць абедзвюма мовамі як роднымі. Іспанскай — праз СМІ і атачэнне, а каталонскай — у школе. І веданне іспанскай мовы гэта зусім не шкодзіць! На ЦТ па іспанскай мове сярэдні бал каталонскіх выпускнікоў вышэйшы, чым сярэдні па Іспаніі!

### Каб адрадзіць мову, на каталонскую перавялі ўсе школы да адной

А вось ва ўніверсітэтах, дзякуючы таму, што ўсе студэнты ў роўнай ступені валодаюць абедзвюма мовамі, кожны выкладчык сам выбірае сабе мову навучання.

Працяг на старонцы 10.

**Каталонія**

Рэгіён на поўначы Іспаніі, ад Міжземнага мора да Пірэнеяў. Жыве там каля 7 мільёнаў чалавек. Каталонія страціла незалежнасць у сярэдніх вяках, але захавала сваю мову і адметнасць. Пры Франка мова амаль знікла з ужытку, але пасля падзення дыктатуры адбылося імклівае адраджэнне.



# Мова гэтай зямлі

## Каталонскі прэцэдэнт для беларускай мовы

Працяг са старонкі 9.

Працоўная мова, мова дакументацыі ў мясцовых адміністрацыях — каталонская. Але з наведнікамі там гавораць на той мове, на якой звяртаюцца яны. Гэта закон. Калі чыноўнік звяртаецца да незнаёмага чалавека, ён павінен тое рабіць пакаталонску. Але калі чалавек яму адказвае па-іспанску, чыноўнік абавязаны перайсці на іспанскую мову. Такім чынам, і каталонская мова падтрымліваецца, і забяспечваецца права чалавека гаварыць на такой мове, на якой яму зручна. А вось між сабой чыноўнікі могуць гаварыць на той мове, на якой хочуць.

Каталонскія грамадскія СМІ вяшчаюць па-каталонску.

Вельмі важна разумець, што такія падтрымчыя меры маюць на мэце выраўняць «стартавыя магчымасці» каталонскай мовы, каб яна была рэальна роўная з іспанскай. Інакш іспанская з яе вагой у СМІ, у свеце проста выціскала б каталонскую.

### Каб кожны мог свабодна ўжываць

**— Дэбаты ў каталонскім парламенце адбываюцца выключна па-каталонску. Так заўжды было? Калі гэта пачалося?**

— Ад пачатку працы аўтаномнага каталонскага парламента ў 1979 было вырашана, што ён будзе працаваць па-каталонску. Гэта была супольная воля партый. Толькі калі антынезалежніцкая, антыкаталонская Партыя грамадзян трапіла ў парламент у 2006 годзе, было іх 3 дэпутаты з 135, яны пачалі прынцыпова гаварыць па-іспанску. І кансерватары з Народнай партыі час ад часу выкарыстоўваюць іспанскую мову, бо гэта падабаецца іх электарату. Астатнія гавораць па-каталонску.

**— Каталонская мова абвешчана «ўласнай мовай Каталоніі». Што гэта значыць?**

— Гэта значыць, што каталонская мова сфармавалася ў Каталоніі і на ёй гаварылі з X стагоддзя, што дае ёй асаблівае значэнне і правы. Гэта было палітычнае абавязацельства — статус «уласнай мовы». Але з юрыдычнага гледзішча і каталонская, і іспанская мовы застаюцца афіцыйнымі.

**— Некаторыя, я чуў, крытыкавалі ваш закон аб мовах 1998 года за тое, што ён накладае штрафы на тыя прадпрыемствы, якія не маюць шыльдаў пакаталонску. А што ўвогуле прадугледжвае гэты закон?**

— Паводле гэтага закона, усе вывескі, шыльды і г.д. павінны быць прынамсі па-каталонску. Хто хоча яшчэ і па-іспанску варыянт — калі ласка. Але па-каталонску — абавязкова. І ўведзеныя мінімальныя, сімвалічныя штрафы за парушэнне гэтага правіла. Выпадкаў, калі гэтая норма парушаецца, мізэрна мала. Грамадства падтрымала закон. Але тыя, хто супраць, спрабуюць падымаць шум.




На эмблеме знакамітага спартовага клуба «Барселона» таксама ёсць нацыянальныя колеры.




Найслаўнейшы футбаліст «Барсы» Ліянэль Месі — не каталонец, а аргенцінец.



Каталонец Хаві сказаў, што будзе з радасцю гуляць за Каталонію.



Жывы ланцуг у падтрымку незалежнасці працягнуўся праз усю Каталонію, 2013 год.

**Мова каталонцаў**

На сёння каля 35% насельнікаў Каталоніі аддае перавагу каталонскай, 45% — іспанскай. 20% актыўна карыстаюцца ў побыце абедзвюма мовамі ці трасянкай.

**— А армія, суды, паліцыя, пракуратура на якой мове працуюць?**

— Армія — толькі па-іспанску. Каталонская паліцыя працуе пакаталонску. Агульнаіспанская паліцыя займаецца пытаннямі межаў, барацьбы з наркатрафікам, тэрарызмам. Яна працуе на іспанскай мове, большасць яе супрацоўнікаў прыехалі з іншых рэгіёнаў Іспаніі.

Сістэма правасуддзя—вялікая праблема, бо яе кантралюе Мадрыд.

**— Якая была роля музыкі ў захаванні каталонскай мовы ў часы Франка? Мы нават у Беларусі маем песню на матыў L'Estaca Люіса Льяка ў перастварэнні Андрэя Хадановіча... У нас яна называецца «Мур».**

— У апошнія гады дыктатуры Франка быў цэлы рух, які называўся Nova Cançó, «Новая песня». Льяк быў самым знаным яго прадстаўніком. Лірыка была метафарычнай, яны спявалі пра свабоду, але завуалявана, каб ідэолагі, цэнзура не прыдзерліся. Выступалі яны дзе толькі маглі, у малых залах.

**— Адносна нядаўні закон пастанавіў, што палова кінасеансаў у Каталоніі павінна быць па-каталонску. Як гэта працуе?**

— Кіно, разам з арміяй і судамі, — гэта слабое месца каталонскай мовы. Толькі 3% фільмаў у Каталоніі ішлі ў дубляжы на каталонскую мову. І тут справа не толькі ў пасіўнасці мадрыдскага ўрада, але і ў нежаданні галівудскай індустрыі нешта мяняць у спосабах распаўсюду прадукцыі ў Іспаніі. Закон пра паказ 50% сеансаў пакаталонску прынялі ў 2010 годзе, але ён так і не стаў практыкай.

Калі б Каталонія была незалежнай, тады б і пытанне з кіно вырашылася б. А так мы пакуль адна дзяржава з Іспаніяй. Рэферэндум аб незалежнасці прызначаны на 9 лістапада 2014 года. Пасля гэтага і будзем вырашаць, ці настойваць на дубляжы на каталонскую, ці ўводзіць замест гэтага сістэму субцітраў, як тое робяць многія скандынаўскія краіны, што дапамагае людзям там асвойваць англійскую мову і таксама развівае шматмоўе.

### Мова яднае, а не падзяляе

**— А іспанскамоўныя падтрымліваюць курс на дзяржаўную падтрымку каталонскай мовы?**

— Абсалютная большасць — так. Хоць 55% людзей называе іспанскую мову роднай, 80% дэпутатаў парламента галасавалі за моўныя законы. Зразумейце нашу сітуацыю: 90% людзей гавораць на абедзвюх мовах і хочуць далей гаварыць на абедзвюх. Мова — не лінія падзелу ў нашым грамадстве. Шляхам падтрымкі каталонскай мовы мы дабіліся такой сітуацыі, пры якой кожны гаворыць на той мове, на якой хоча.

І большасць разумее: каталонская мова робіць нас адметнымі, вылучае і яднае нашу супольнасць, а іспанская культурна ўзбагачае нас і адкрывае для нас рынкі іспанскамоўных краін.

Унутры Каталоніі моўных канфліктаў няма. Гэта ў Мадрыдзе вакол гэтага робяць шум, бо ім не падабаецца каталонская моўная палітыка.

**— Імігранты не з Іспаніі як ставяцца да каталонскай мовы?**

— Імігранты, як правіла, пераймаюць мову квартала, у якім жывуць, школы, суседзяў, мясцовых сяброў. Але імігранты з іспанскамоўных краін Паўднёвай Амерыкі не схільныя пераходзіць на каталонскую, гэтыя застаюцца пры сваёй іспанскай мове скрозь.

**— Хто вызначае моўную норму? Хто сочыць за чысцінёй мовы?**

— Для гэтага існуе Institut d'Estudis Catalans, Інстытут каталонскіх даследаванняў.

### Спачатку дэмакратыя, а незалежнасць пасля

**— У лістападзе Каталонія хоча правесці рэферэндум аб незалежнасці. Чаму вы яго не арганізавалі адразу пасля падзення Франка? Чаму ішлі так паступова?**

— Іспанія перайшла да дэмакратыі бяскроўна. Ну, амаль бяскроўна. Але ў гэтым плюсе быў і мінус: істэблішмент не памяняўся. Кантралявала працэс пераходу да дэмакратыі армія, і некаторыя рэчы былі проста па-за абмеркаваннем. Сярод іх было і права рэгіёнаў на самавызначэнне. Калі б мы тады радыкальна паставілі пытанне, то пераходу да дэмакратыі магло б не адбыцца, ён мог бы сарвацца.

А цяпер, калі праз чатыры дзесяцігоддзі дэмакратыя ўстаялася, каталонцы прыйшлі да высновы, што іспанская дзяржава дысфункцыянальная і нам трэба свая дзяржава, каб у нас была моцная гаспадарка і сацыяльная сістэма.

**— Якая канчатковая мэта моўнай палітыкі ў Каталоніі? Стварыць аднамоўную нацыю?**

— Не, мэта ў тым, каб гэта была краіна, дзе людзі аднолькава свабодна гаварылі б па-іспанску і пакаталонску і каб істотна палепшыць веданне англійскай мовы. Для гэтага дзяржава падтрымлівае каталонскую мову, бо яна меншая, і без дзяржаўнай падтрымкі з іспанскай ёй было б канкураваць цяжэй.

Аднамоўнасць збяднела б нас культурна і эканамічна.

Наша культура грунтуецца не толькі на мове, а на нашых каштоўнасцях, этыцы. А разнастайнасць культур толькі ўзбагачае наша грамадства.

**Андрэй Дынько**



**Бакардзіт**

Знакаміты каталонскі род. Прадпрымальнік Факунда Бакардзі — стваральнік рому «Bacardi».

**Падзяка за дапамогу ў арганізацыі інтэрв'ю Алесю Беламу — гаспадару ўтульнай аграсядзібы «Марцінова гусь», у якога спадар Бакардзіт адпачываў.**

# «Дзве з паловай гадзіны любоўных стогнаў»

У Беларусі пачаўся паказ фільма **Ларса фон Трыера «Німфаманка»**.

Па этычных меркаваннях фільм забаранілі ў Гродне і Ваўкавыску, у Румыніі, а таксама ў Арменіі і Кыргызстане. У «Німфаманцы» (як і ў іншых фільмах фон Трыера) бачаць не мастацтва, а танную парнаграфію. Там вельмі шмат сэксу і гвалту. У некаторых сцэнах занятыя прафесійныя порнаакцёры. Нездарма ў адной з вядучых нямецкіх газет рэцэнзія на фільм называлася «Дзве з паловай гадзіны любоўных стогнаў».

Збітая і ледзь жывая жанчына, якую клічуць Джо (Шарлота Гэнсбур), трапляе да самотнага халасцяка Сэлігмана (Стэлан Скарсгард). Джо са страхам усведамляе, што яна німфаманка, якая ўвесь час прагне сэксу. Так пачынаецца першая частка фільма, які пачаў дэманстравацца ў беларускіх кінатэатрах. Другую гледачы ўбачаць у сакавіку.

Паказ гісторыі жыцця і эратычных перажыванняў Джо, пра якія тая апавядае выпадковаму суразмоўцу, ужо стаў скандальным.

Чаму ж у свеце «Німфаманка» выклікала такі ажыятаж? Фон Трыер — класік сусветнага кінематографа. Яму 57 гадоў, ён датчанін. У 2000 годзе яго стужка «Якая танчыць у цемры» была адзначана «Залатой пальмавай галінай» Канскага кінафестывалю. У 2010 годзе ён заявіў, што лічыць сябе нацыстам і са спачуваннем ставіцца да Гітлера. Пазней высветлілася, што фон Трыер пажартаваў. Але ў Канах яго аб'явілі «персонай нон грата». Вобраза правакатара і бунтара, які ўвесь час ідзе супраць плыні, дастаткова, каб знаходзіцца ў цэнтры ўвагі публікі. Але не хапае, каб знаходзіцца ў эліце сусветнага кіно.

У апошнім існуе выразны падзел паміж дзвюма плынямі. Артхаўзнымі стужкамі для вузкай аўдыторыі, у якіх узнімаюцца сур'ёзныя праблемы. А таксама масавым, галівудскім кіно, якому ўласцівыя вялікія бюджэты, спецэфекты і стаўка на раскручаных зорак. Дарэчы, менавіта гэтыя фільмы часцей за ўсё паказваюць у беларускіх кінатэатрах. У маніфесце «Догма-95» фон Трыер публічна адмовіўся ад галівудскіх прынцыпаў. Але сыходзіць у кіно для вузкай аўдыторыі не збіраўся. А таму вырашыў сумясціць два падыходы: глыбокі змест і яркую абгортку.

Пафасны слоган «Забудзься пра каханне», прэм'ера, прызначаная на Дзень святога Валянціна, сэксуальныя сцэны, анансаваныя праз трэйлер, — што яшчэ трэба, каб прыцягнуць увагу масавай аўдыторыі? Фон Трыер кідае гледачам сэкс, як нажыўку — рыбам. А тыя з радасцю набываюць квіткі.




У рэальнасці «Німфанка» расказвае зусім пра іншае. Як і ў апошніх фільмах фон Трыера — гэта фільм пра гісторыю хваробы. Хоць тут рэжысёр не асуджае Джо. Як пішуць крытыкі, «з дзяцінства яе адольвала прага жыцця. Але жаданні засталіся невыкананымі, яна згубіла смак да жыцця, і застаўся толькі сэкс, толькі задавальненне без кахання».

«Німфаманка» — фільм пра цудатворную ролю мастацтва ў жыцці чалавека. Бо зразумець Джо можа толькі Селігман — кніжны чалавек, які добра ведае кнігі, але дрэнна — рэальнае жыццё. Таму падчас аповеду Джо ён увесь час праводзіць паралелі (часам вельмі камічныя) з мастацтвам. Прычым многія крытыкі ўжо пачынаюць праводзіць паралелі паміж Селігманам і самім рэжысёрам.

«Німфаманка» — пранікнёны фільм пра каханне. Дакладней, пра сыход ад кахання ў юр жаданняў і ў адзіноту. А яшчэ гэта фільм з'яўляецца спалучэннем неспалучальнага. Там ёсць абсурднасць і бессэнсоўнасць сучаснага жыцця, іронія і пародыя, а таксама сэкс і гвалт. І такі «вінегрэт» працуе. Бо гэта фон Трыер.

Такім чынам, што такое «Німфаманка»? Класічны, элітарны фільм, створаны ў эпоху масавай свядомасці. Але так, што шырокая аўдыторыя можа зразумець яго і лічыць сваім.

**Максім Кавальскі**

# Выкляты народ

**Валерый Гапееў** напісаў містычны раман «Праклён».

Гапееў — амаль аднагодак Федарэнкі, Глобуса і Сыса. Але сваю першую кнігу ён напісаў у 40 гадоў. А над гэтым раманам працаваў 6 гадоў. Ён жыве ў Івацэвічах, а час там бяжыць не так, як у Менску.

Адказны сакратар івацэвіцкай раённай газеты, аўтар далёкі ад «мінскацэнтрычнасці», уласцівай сучаснай беларускай літаратуры. «Праклён» — моцны класічны раман з няспешным рытмам і працяглымі дыялогамі.

Вуснамі сваіх герояў Гапееў крытычна ацэньвае сучаснікаў — нацыю «недарэкаў, гультаёў і баязліўцаў». Галоўны герой, вясковец Уладзімір Жабрун, бачыць у такім ператварэнні прыватныя прычыны. Напрыклад, сяляне яго вёскі калісьці спалілі панскую сядзібу разам з гаспадаром і яго сям'ёй. З таго часу род Жабруноў вымірае.



Валеры Гапееў. Праклён. — Галіяфы, 2013.

Але іншы герой, студэнт Антось, лічыць, што беларусы выклялі сябе самі, прадалі свае святыні. Яны адмовіліся ад сваёй гісторыі і сталі «жыць паводле прынцыпаў: забралі палову, дык пакланіся, дагані іх і аддай яшчэ палову ад таго, што пакінулі». Такая нацыя асуджана на выміранне праз адно-два пакаленні. «Ідзі, Хрыстос, пажыві пакуль што ў іншым месцы, не чапай нас, дай ты нам навучыцца жыць годна, — кажа Антось. — А потым ужо прыходзь, навучай. Бо не людзей ты атрымаеш, а сапраўдных рабоў».

Сучаснасць для Гапеева з'яўляецца арэнай змагання паміж святлом і цемрай. Апошні лагер увасабляюць прадстаўнікі рэлігійнай і свецкай улады. У двух «гістарычных» раздзелах «Праклёну» — гэта манах, а таксама «чырвоныя» часоў грамадзянскай вайны. У сучаснасці сярод іх — міліцыянты, якія разганяюць маўклівую акцыю.

Штогадовы пік змагання паміж святлом і цемрай адбываецца ў купальскую ноч, калі цвіце папараць-кветка. Сілы цемры імкнуцца задушыць яе, не даць ёй расцвісці, бо ў кветцы схавана іх смерць. Кветка з'яўляецца сімвалам нацыі, а таксама ўвасабляе нацыянальную памяць і культуру, за якія ідзе змаганне. Нездарма тэкст малітвы, якую кажуць раз на год у купальскую ноч, каб дапамагчы заступніку кветкі, схаваны на старадаўніх рушніках.

Да вытокаў мусіць вярнуцца і галоўны герой. З кім Уладзімір Жабрун знойдзе сваё шчасце, як ён ператорвыцца ў ваўкалака і чым скончыцца змаганне — на старонках «Праклёну».

**Максім Кавальскі**

**In memoriam**

# Гаўрыла Вашчанка

Народны мастак Беларусі нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Чыкалавічы на Гомельшчыне. Скончыў Львоўскі інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, дзе адчуў уплыў заходнееўрапейскага мастацтва. Працаваў у галіне станковага жывапісу, акварэлі, манументальнай размалёўкі і вітражу. Сярод яго лепшых твораў: «Маё Палессе», «Дума пра хлеб», «Мацярынскія крылы», «Нацюрморт з барэльефам Гусоўскага». Падзеям беларускай гісторыі прысвечаны палотны «Грунвальдская бітва», трыпціх пра паўстанне К.Каліноўскага «За зямлю, за волю», «Балада пра мужнасць».



«Гаўрыла Вашчанка належыў да пакалення Адлігі, — кажа пісьменнік і мастак Адам Глобус. — Яны стварылі новую беларускую культуру, з'явіўся «суровы стыль». Савецкі манументалізм заўжды быў пафасны, фундаментальны, а Вашчанка ўнёс у манументальнае мастацтва лірычнасць. Створаныя ім вобразы Палесся, маладосці, прыгажосці, юнацтва — яны назаўжды застануцца ў беларускай культуры».

«Гэта быў вельмі мудры чалавек, яго ўсе любілі, — кажа мастак Алесь Пушкін. — Ён ніколі не быў у камуністычнай партыі, не маляваў Леніна, аднак яго любілі і прызнавалі і калегі, і музеі, і кіраўнікі краіны. Рэдкі выпадак, калі беларускі мастак адразу атрымлівае прызнанне на Радзіме, а не праз Маскву і Ленінград. Для мяне ён заўжды быў прыкладам сапраўднай грамадзянскай пазіцыі. Ён вялікі настаўнік: каля 200 мастакоў, выдатных і вядомых, ягоныя вучні».

**ЮУ**

**Спачуванні, пакінутыя праз nn.by**

Высакародны грамадзянін, выдатны чалавек, геніяльны мастак! Спачуванні родным і блізкім! Зямля яму пухам!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Адыходзяць велічныя творцы, асобы, людзі, а грамадства, па праўдзе кажучы, ведае іх збольшага павярхоўна. Маючы вялікі аўтарытэт сярод калегаў, яны не сталіся, на жаль, медыя-персонамі, творцамі грамадскай думкі, мудрымі дарадцамі для ўсіх нас. А маглі б і павінны былі б. Беларусі гэтага бракуе.

**Міхал Анемпадыстаў**

Светлы быў чалавек... Царства яму Нябеснага!

**Валянціна Трыгубовіч**

# Змены сувязяў

Уладзімір Някляеў.
Апавяданне.

**«Ці ты колеш гэта яму, ці ён, — ківае генерал на вартавога, які вызваўся зрабіць ін’екцыю, — коле гэта табе»**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

— Я магу сказаць, што я пра вас думаю. Я не думаю пра вас нічога!

Гэта няпраўда. Ён пра мяне думае. Хутчэй за ўсё, думае нешта кепскае, таму кажа, што не думае нічога.

— Вы дарма ў гэта ўлезлі. Яно не магло ў вас выйсці, бо яно не ваша.

Бадай, так. А кажа, што нічога не думае.

— А вы ніколі нічым не сваім не займаліся, доктар?

Ён маўчыць, унурыўшыся ў сваё, з чаго вынікае, што нічым не сваім ён не займаўся ніколі.

— І не змушалі вас?..

Маўчыць.

Што ж, сапраўды яно не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё. Тое, што не тваё, выйсці ў цябе не можа. Гэта зразумела кожнаму ад пачатку. Але ад пачатку зразумела кожнаму і многае іншае. Напрыклад, тое, што ён памрэ, і ёсць, хоць і няпэўная, верагоднасць, што паўстане па смерці прад Боскім судом. І што? Кожны баіцца суда? Ды кожны мяркуе, што ўсе сканаюць, а ён — не. Невядома як, але пазбегне смерці. Можа, праз дасягненні медыцыны.

Доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён змушае мяне глынаць пігулкі, кажа:

— Гэта вам не дапаможа.

Ён не мае на ўвазе медыцыну. Хоць, можа быць, і мае, мы якраз пра яе гаварылі. Я стараюся не маўчаць, гаварыць і гаварыць з ім, каб ён услухаўся, угледзеўся ў мяне. Усвядоміў, хто я такі, і паспрыяў, каб з мяне знялі кайданкі, якімі я прышпілены да ложка.

— Трывайце.

Я трываю... Хачу толькі, каб ён зразумеў, што нельга з чалавекам, які не доктар, але пра тое, як ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, ведае не менш за доктара, гэтак абыходзіцца.

— Я не магу спыніць актыўныя допыты.

Добра, няхай актыўныя допыты, як называюць тут катаванні, спыніць ён не можа, але ж ён доктар, ён даваў клятву Гіпакрата і абавязаны ў любым выпадку быць на маім баку. Угаварыць, упрасіць, каб з мяне знялі кайданкі, адшпілі ад ложка, дазволілі зрабіць хоць некалькі крокаў ад сцяны да сцяны. Але ён нікога не ўгаворвае і не просіць ні аб чым нікога.

— Гэта не ў маёй кампетэнцыі.

У ягонай кампетэнцыі націскаць чырвоную кнопку над сталом — і, як толькі ён тую кнопку націскае, з’яўляецца худая, са шнарам над левым брывом мядсястра. Яна моўчкі набірае ў шпрыц нейкай мярзоціны, якую падае ёй доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён у белым халаце, і ён назірае, як медсястра робіць ін’екцыі, пасля якіх пачынаюцца гэткія спазмы, што я страчваю ад болю прытомнасць. Калі ачомваюся, мне спачатку выварочвае вантробы, а пасля перакручвае свядомасць: я раблюся як бы не я — і той, хто не я, нагаворвае на таго, хто я, што заўгодна. Ужо столькі я ўсяго на сябе самога нагаварыў, а ім усё мала, мала, мала, яны мяне катуюць, катуюць, катуюць — і ў іх прэтэнзіі да доктара:

**Уладзімір Някляеў**

Нар. 1946. Пісьменнік, экс-старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, лаўрэат прэміі Гедройца за раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2012). У другой палове 1990-х быў галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца», газеты «ЛіМ». Пасля публічнага канфлікту з кіраўніцтвам краіны ў 1999 з’ехаў у Фінляндыю. За мяжой быў да 2004. У 2010, як лідар грамадскай кампаніі «Гавары праўду», быў кандыдатам у прэзідэнты. У дзень выбараў, 19 снежня, яшчэ да пачатку падзей Плошчы, быў жорстка збіты пераапранутымі сілавікамі. З шпіталя ў тую самую ноч быў адвезены ў СІЗА КДБ, адкуль выйшаў толькі 29 студзеня 2011 пад хатні арышт. У няволі склаў паэму «Турма». Пазней быў асуджаны за «арганізацыю масавых беспарадкаў» на два гады з адтэрміноўкай.

— Вы змяншаеце дозы, доктар!.. Ці ён прывыкае?

Доктар дозы не змяншае, і я не прывыкаю. Да гэтага нельга прывыкнуць. Проста я не разумею, чаго яны хочуць ад мяне, і, падобна, яны ўжо самі не разумеюць гэтага.

І доктар не разумее.

— Чаго вы ўпіраецеся? Выгадная ўмова...

— Якая выгадная?

— Жыццё. Інакш вы сканаць можаце. Для актыўных допытаў ваша здароўе...

Ён пакручвае пальцамі так, што маё здароўе не выглядае прыдатным для актыўных допытаў.

Жыццё сапраўды някепская ўмова. Але чаму яе прапануюць мне яны? Хто яны такія?

— Хто яны такія, — пытаю я доктара, — каб прапаноўваць мне тое, што ўжо без іх даў Бог?

Доктар моршчыцца, ён кожны раз моршчыцца, калі я згадваю Бога. Потым дае мне пігулкі, якія заўсёды дае за паўгадзіны перад кожнай ін’екцыяй, і кажа паблажліва:

— Яны ўлада, якая ад Бога. Значыць, могуць прапанаваць тое самае.

Праз паўгадзіны — чарговы ўкол і допыт. Яны мне па гадзінах, па хвілінах распісалі актыўныя допыты — і самае страшнае: глядзець на гадзіннік, які вісіць над сталом, дзе чырвоная кнопка, і чакаць.

— Гэта мана.

Ён дастае з маленькай лядоўні, з нутра якой даносіцца нечакана моцны для такой малечы гуд, ампулу з мярзоцінай.

— Што мана?

— Што ўлада ад Бога. У аўтэнтычным тэксце Святога Пісання сказана: «Усялякая ўлада пад Богам». Гэта ўжо пры перакладзе папы прыдумалі для цароў, што ўсялякая ўлада ад Яго, а не пад Ім.

Доктар трохі думае пра нешта, потым кажа:

— Па-мойму, там усё ж сказана, што ўлада ад Бога, але гэта не важна. Бог да чалавека як да чалавека ўвогуле адносін не мае. Бо чалавек не чалавек.

Я не разумею: пра што ён?

— А хто?

— Жывёліна. У найпростым сэнсе. І пачакайце пярэчыць!.. Усе вызначаецца механізмамі ўзнаўлення, стварэння сабе падобных. Якія яны ў вас? Гэткія ж самыя, як у любой і кожнай жывёліны. Тады хто вы?..

— А вы?

— А калі вы не чалавек, — доўжыць, як не пачуўшы мяне, доктар, — дык і Бог для вас не Бог. І для іх, — ківае ён на дзверы, за якімі ў чорнай форме і чорных масках стаяць вартавыя. — Так што вы дарма з імі пра Боскі суд. Сорам, сумленне... Ваўку не сорамна зайца зжэрці.

Доктар, вядома, не жывёліна, не з ягонай фанабэрыяй жывёлінай сябе лічыць. Нешта ў ягонам жыцці не склалася, інакш не быў бы ён тут і не займаўся б тым, чым займаецца, праз што стаў звычайным чалавеканенавіснікам. Але быць проста мізантропам надта банальна, таму ён выдае сябе яшчэ й за цыніка. Філасофствуе.

Усе гэта праз тое, што ён — бязбожнік. Але быць проста бязбожнікам гэтаксама банальна, як быць проста мізантропам, таму ён выдае сябе за верніка, які расчараваўся ў хрысціянстве. «Сын Бога, — тлумачыць ён прычыну свайго расчаравання, — не можа быць пакутнікам, які сам цягне свой крыж на Галгофу, каб быць раскрыжаваным за чужыя грахі. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Расчараваўшыся ў хрысціянстве, доктар спавядае індуізм, але не як рэлігію, а як філасофскую сістэму, і трыццаць першую частку трэцяй песні «Бхагавадгіты», прысвечаную рэінкарнацыі, лічыць найлепшым з усіх, якія калі-небудзь былі напісаныя, філасофскім трактатам, бо ў ім вырашаецца праблема суіснавання дабра і зла.

— Калі Бог — любоў і дабро, скуль зло і пакуты? Чаму гінуць дзеці?.. Папы з ксяндзамі выдумляюць такое, чаго самі не разумеюць, бо адказу на гэта няма ні ў Старым, ні ў Новым запавеце. А ў ведах ёсць: рэінкарнацыя. За грахі папярэдняга жыцця ў новым жыцці спасцігае кара за іх. Усё лагічна.

У доктара ёсць якасць, уласцівая усім людзям з завышанай самаацэнкай: яны мяркуюць, што да іх ніхто, хто жыў на гэтым свеце, нічога пра жыццё на гэтым свеце не петрыў. Вось і пра тое, што напісана пра дабро і зло ў ведах, доктар распавядае так, нібы сам пра гэта напісаў.

— Бог не ў дзеяннях, а ў іх прычынах.

— Ды канчаце!.. — паклаўшы на стол ампулу, націскае доктар чырвоную кнопку над сталом. — Адзін немец даўно сказаў: «Бог памёр!» Але немец гэты, як і ўсе немцы, паспяшаўся. Бог будзе жыць да

той пары, пакуль мы не вызначым крыніцу нашай свядомасці.

Вось з чаго ён узяў, што ўсе немцы спяшаюцца?

— Дык ужо вызначылі. І я чытаю яму па памяці, так у маіх мазгах ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, што я даслоўна запамінаю тэксты, якія мне зусім без патрэбы: «Меркаванне, што нейроны не здольныя да трансфармацыі і зменаў сувязяў аднаго з адным, абвергнутае. Працэсы зменаў сувязяў зафіксаваныя пакуль на мікраскапічнай частачцы галаўнога мозга, аднак гэтага дастаткова для разумення сутнасці нашай свядомасці».

Я думаю, што гэтага ўсё ж не дастаткова для разумення нашай свядомасці, але доктара раздражняе не тое, што я думаю, а тое, што лезу не ў сваё, таму ён злуе, б'е зверху кулаком па лядоўні — і тая змаўкае.

— Не лезце не ў сваё!.. Немцы зноў паспяшаліся — вызначанае імі нічога не вызначае! І ні на што не ўплывае! Хіба толькі на экспертаў камітэта па Нобелеўскіх прэміях можа паўплываць, — і кіўнуўшы на трох пахмурных мужчын за дзвярыма, якія адчыніла, уваходзячы, медсястра, ён кажа цішэй: — Але не на гэтых таварышаў.

Доктар ведае, што працэс змены сувязяў паміж нейронамі зафіксаваны нядаўна менавіта немцамі, а трое таварышаў, якія ўваходзяць за медсястрой у абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой, дзе мяне трымаюць ужо пятыя суткі, пра тое не ведаюць і ведаць не хочуць. Адзін з іх, таварыш генерал, ківае доктару, той ківае ў адказ, я ніяк не магу зразумець: што азначаюць гэтыя іх кіўкі адзін аднаму?.. — а да мяне падыходзяць вартавыя, прышпіляюць да ложка, сястра адломвае кончык ампулы, набірае шпрыц, перацягвае мне гумовым пасам вышэй за локаць правую, якая не ў кайданках, руку, робіць укол — і мяне торгае яшчэ да таго, як у кроў маю пачынае ўлівацца мярзоціна...

— Спакайней, спакайней, — назіраючы, як выціскае апошнія кроплі са шпрыца медсястра, кажа доктар. — Няма чаго торгацца. Так, каб торгацца, яшчэ не баліць.

Я ўжо ведаю, як яно будзе балець, і праз гэтае веданне пачынаю адчуваць боль яшчэ да таго, як ён торгне мяне, скруціць, праб'е ад пятаў да мазгоў, у якіх у чаканні болю панічна пачынаюць мітусіцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны.

Сястра моўчкі выходзіць і зачыняе дзверы. Двое, што ўвайшлі з генералам, старэйшы і маладзейшы, таксама глядзяць на доктара, і ён таксама ім ківае. Я не разумею, што гэта азначае, чаго доктар ківае і генералу, і гэтым двум, але ведаю, што маладзейшы сярод іх усіх насамрэч найстарэйшы. Найгалоўны, бо ён сын таго, які ўсіх іх сюды, у гэтую трупярню, да мяне пасылае.

Мяне прывезлі сюды чатыры дні таму. Уночы, з завязанымі вачыма. Была зіма, і пахаў ніякіх не адчувалася, толькі пах снегу, але, мяркуючы па цішыні, якая напоўніла вушы, калі вывелі з машыны, прывезлі мяне ў лес. Лясная цішыня адрозная ад цішыні рачной ці палявой, я звык іх распазнаваць яшчэ ў дзяцінстве. Толькі ў дзяцінстве я не мог падумаць, пачуўшы лясную цішыню, што мяне ў ёй заб'юць, а тут падумаў, бо на першых допытах у турме, з якой сярод ночы мяне ў лес прывезлі, якраз гэтым палохалі...

Пад рукі мяне павялі прыступкамі ўніз, значыць, у лесе была нейкая будыніна — і калі развязалі вочы, я ўбачыў гэты халодна-голы, абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой. Пасярод яго стаяў ложак; каля адной сцяны з гадзіннікам на ёй — стол, крэсла і невялічкая лядоўня, а каля другой — штосьці падобнае на яшчэ адзін ложак, аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі, адно з якіх было з гумовай камерай, як для мяча, якім гулялі мы ў дзяцінстве ў футбол. Я вырашыў, што гэта нешта для таго, каб дыхаць, і не памыліўся: аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі ложак аказаўся апаратам для штучнай падтрымкі жыцця.

Яны не давалі тым, каго сюды прывозілі, памерці... Калі нехта не вытрымліваў на ложку пасярод пакоя, яго перакладвалі на ложак каля сцяны. А потым зноў клалі на ложак пасярод пакоя.

Госпадзе, што яны зробяць са мною?..

— У вас няма выбару... — кажа ў каторы раз адно і тое генерал. — Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей, якія дапамагалі вам рыхтаваць дзяржаўны пераварот, мы ўводзім прэпарат — і болю не будзе.

Пераварот, прэпарат... Мне ўжо баліць, а ён: болю не будзе. Што значыць не будзе?.. Яны ўколяць мне нешта такое, ад чаго я сканаю?

— Я не рыхтаваў дзяржаўны пераварот.

— Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей...

Доктар кажа: «У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць. За гэтым парогам — смерць. Спыняецца ад болю сэрца». Ён мог гэтага й не казаць, я кожны раз здзіўляюся, калі боль пачынае спадаць, што сэрца не разарвалася. Я навыдумляў процьму краінаў, ведамстваў і людзей, якія мне дапамагалі, але гэта не тыя краіны, не тыя ведамствы і не тыя людзі — ім патрэбныя іншыя. Я пытаю: «Якія?..» — а яны не кажуць. Бо самі не ведаюць, якія? Яны ўвогуле, падобна, не ведаюць, чаго хоча ад мяне чалавек, які імі кіруе і пасылае іх да мяне.

— У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць, за гэтым парогам смерць, ад болю спыняецца сэрца, — паўтарае словы доктара сын таго чалавека, наймаладзейшы з гэтых трох, якіх паслаў ён да мяне. — І паварочваецца да доктара. — Так, доктар?

Доктар у каторы раз ківае: так.

Першы спазм!.. Госпадзе, дай мне не вытрываць, дай мне сканаць!..

Боль невыносны... і доўжыцца, здаецца, з дня, у які я нарадзіўся, і калі гэткія мукі чакаюць нас па смерці за грахі нашы, дык трэба ці не грашыць, ці не паміраць, а я паміраю, пачуў мяне Госпад... пачуў, але не прыняў, я кепскі вернік, ды не вернік я ніякі, бо ўвесь у спакусах, праз якія і ўлез у тое, што не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё... і Гасподзь карае, пакідае мяне жыць у спазмах, у болю, які торгае, скручвае, працінае да мазгоў, у якіх панічна мітусяцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны... і калі я ачомваюся, іх выварочвае з мяне, я ванітую імі, нейронамі, маімі мазгамі, у якіх перакручваецца свядомасць: я раблюся як бы не я — і той, хто не я, на таго, хто я, нешта ўсё нагаворвае, нагаворвае, нагаворвае, а старэйшы з тых двух, што прыйшлі з генералам, запісвае, запісвае, запісвае на дыктафон і ў нататнік...

— Моцны вы... — кажа доктар, калі генерал і двое з ім выходзяць. — Ваш бацька ў якім веку памёр?

Я не помню, у якім веку памёр бацька.

— А маці?

І пра маці не помню... Я не помню нават пра сябе... Але помню пра доктара, якому спрабую сказаць: «Няхай вы не можаце гэтага спыніць, але...»

Мне цяжка прамаўляць не таму, што не хочуць слухацца язык і вусны, а таму што ў мазгах парваныя сувязі паміж нейронамі — і думкі тыкаюцца сляпымі кацянятамі, шукаючы тыя, якія засталіся цэлымі, ланцужкі.

— Што «але»?

— Вы маглі б у гэтым не ўдзельнічаць.

Доктар глядзіць на мяне так, нібы тое, што я сказаў, яго надта здзівіла.

— Мы ж гаварылі з вамі пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю...

Так, мы гаварылі з ім пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю, пра змены сувязяў паміж нейронамі, мы пра многае гаварылі — і што з таго? Мяне катуюць, а ён вядзе гаворкі пра індуізм! Пра закон кармы, па якім, калі ты нарадзіўся катам, дык найпершы твой абавязак — як мага лепей адсякаць галовы.

Хай нават так, хоць яно не зусім так, але ж ён не кат, а доктар. Менавіта гэта я хачу яму давесці, на што ён кажа: «Магчыма, у папярэднім жыцці я быў катам, выканаў карму ката і стаў доктарам».

Ён не выканаў карму ката і не стаў доктарам. Дактары не катуюць.

«Хіба я вас катую?»

«А хто?»

Ён ківае за дзверы...

«А мярзоціну хто мне ўшпільвае?»

«Сястра. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Ён, значыць, адказвае за тое, што націскае чырвоную кнопку.

Тады за што адказвае генерал? І той, хто з ім? І сын таго, які ўсіх іх да мяне пасылае?..

Я не задаю гэтыя пытанні доктару, бо яны з тых, якіх ён не чуе, і сам пытае: «Я выконваю карму доктара, а вы — чыю?..»

Ён хоча, каб я толькі пра тое й думаў, што ўзяўся не за сваё.

Я думаю, што карму доктара ён выконвае не так, як трэба, але мала што я думаю... Я нават не ведаю, думаю я ўвогуле ці не?

Боль не можа думаць — проста баліць.

— Зрэшты, — кажа доктар, не дачакаўшыся адказу на тое, чыю карму я выконваю, — вы можаце гэтага й не ведаць. Таму й нагаворваеце на сябе абы што.

— Кожны з нас, нічога пра сябе не ведаючы, абы-што на сябе нагаворвае.

Доктар маўчыць хвіліну, ківае галавой:

— Бадай, так. Хоць галоўнае пра сябе ведаюць усе.

Я не пытаю, што галоўнае пра сябе ўсе ведаюць — ён мне пра гэта ўжо казаў. «Націсні на любога — і з любога вылезе кавалак дзярма. Больш нічога». Маю спробу запярэчыць: «Дзярмо з сябе кожны мусіць выціскаць сам...» — ён кожны раз перапыняе:

— Мяне цікавіце не вы, а ваш боль».

Я спрабую яго зразумець.

Ён кажа: «Усё вырашаецца тым, баліць табе ці не баліць, а калі баліць, дык як?» — і ў хвіліны, калі мне не баліць, я згодны прызнаць, што ў ягоных развагах ёсць праўда: усім нам шкада, калі нехта, рыба ці птушка, гіне, ці нешта, кветка ці мова, знікае, але некаму — баліць, некаму — не.

— Вас цікавіць, ці баліць мне тое, праз што мяне прыкавалі да ложка ў вашай трупярні?

— Не, — ён усміхаецца, усмешка ў яго пагардлівая. — Што вам можа балець? Свабода? Дэмакратыя?.. Такіх органаў у чалавеку няма.

Да болю звыкнуць немагчыма, а да цынізму — можна. Мусібыць, я прывыкаю, бо пытаю: «А вам карма баліць, ці рэінкарнацыя?..» — і ён, як заўсёды, не чуючы таго, чаго не хоча чуць, доўжыць: «Ёсць шлункі, ныркі, залозы. Яшчэ дзвебры ін'екцыі — і вы кінеце гульні ў тое, у што вам не трэба гуляць, каб выжыць».

«Я помню, што ўва мне ёсць нешта яшчэ, апроч шлункаў».

«Забудзецеся. Як у новым жыцці забываюцца на жыццё папярэдняе. Чаму, дарэчы, мы нічога з яго не помнім? У гэтым палягала асноўнае пытанне, звязанае з ідэяй рэінкранацыі. Брахманы знайшлі адказ: мы ўсё забываем праз боль народзінаў. Так напісана ў ведах. Не народзіны, а боль стварае новага, ці як бы новага, бо ён ужо быў, чалавека».

Ён, можа, думае, што стварае ўва мне новага чалавека?..

— Вы, можа, думаеце, што ствараеце ўва мне новага чалавека, доктар?

— У пэўным сэнсе... Калі мы з'яўляемся ў свет праз боль, значыць, што?..

Ён робіць паўзу, чакае, пакуль нейроны ў маіх мазгах наладзяць такія сувязі, праз якія я здолею зразумець, дзеля чаго мы з'яўляемся ў свет праз боль, а я гляджу на гадзіннік, абедзве стрэлкі на якім няўмольна набліжаюцца да рыскі болю, і доктар, пачакаўшы, сканчае:

— Значыць, боль — шлях да ісціны. Нездарма, калі баліць, крычаць.

— Што значыць нездарма?

— Нездарма, бо бачаць ісціну.

— Яна такая страшная?

— Яна такая простая.

Я, дарэчы, не помню, ці крычу? Не чую сябе праз боль.

— Я крычу?

— Яшчэ як... — зірнуўшы на гадзіннік, ідзе да лядоўні, каб узяць мярзоціну, доктар, а я кажу:

— Вы не далі мне пігулкі.

Ён спыняецца.

— Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі. Нарэшце.

— Што?..

Доктар не паспявае растлумачыць мне, што я нарэшце зразумеў, бо насцеж расчыняюцца дзверы, у якіх з'яўляюцца трое — і адзін, генерал, кідае з парога:

— Доктар, вы гатовы?

Да ін'екцыі паўгадзіны.

— Яшчэ паўгадзіны... — разгублена глядзіць на генерала і тых двух, што ўвайшлі з ім, доктар, а сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, кажа адрывіста:

— Давайце раней. Каб не прывыкаў.

Яму ўсё здаецца, што я прывыкаю. Няхай бы сам прывыкнуць паспрабаваў.

— Але я не... — пачынае і змаўкае, наткнуўшыся на позірк генерала, доктар, падыходзіць да стала, стаўшы каля якога спінай да ўсіх, націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці... а сястра, якая звычайна з'яўляецца імгненна, не йдзе... не йдзе... не йдзе... і адзін з вартавых вінавата кажа ў дзвярах: «Яе няма. Выйшла, будзе праз паўгадзіны».

Шыя генерала над белым каўнерыкам кашулі пачынае налівацца чырванню.

— Як няма?.. Куды выйшла?.. Тут закрыты аб'ект ці раённая паліклініка? — наступае ён на вартавых, потым рэзка паварочваецца і кідае доктару. — Значыць, сам!

Доктар таксама паварочваецца:

— Я не...

І зноў не дагаворвае.

— Што не?.. Калоць не ўмееш?.. — з пагрозлівым здзіўленнем пытае генерал, а той, які павінаваціўся, вартавы прапануе:

— Давайце я... Я ўмею, нас вучылі.

Генералу, счырванеламу праз тое, што начальства прывёў не на закрыты аб'ект, а ў раённую паліклініку, праз што ў яго могуць быць праблемы, хочацца ўсё найхутчэй скончыць, ён згодна ківае: «Ну, давай ты, калі вучылі...» — і вартавы йдзе да майго ложка, але сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, раптам кажа: «Не! Кожны адказвае за сваё!» — і ва ўпор глядзіць на доктара, нібы падслухаўшы ўсё, пра што мы з доктарам гаварылі.

Можа, і слухаў... Яны і ў раённай паліклініцы слухаюць.

Доўгага позірку ва ўпор доктар не вытрымлівае, дастае з лядоўні ампулу з мярзоцінай, кладзе на стол, зноў націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці... і рука, якой ён кнопку націскае, пачынае дрыжаць... а сястра не йдзе, не йдзе, не йдзе — і дзіўная рэч: мне хочацца, каб яна прыйшла, хоць я павінен хацець іншага, бо што мне гэты доктар, цынік, які даводзіў тут сваю выключнасць, а зараз яго тыцнуць пысай у ягонае ж дзярмо, пакажуць, чаго ён варты, давядуць, што нічога ён не значыць, але вось жа я нешта для яго значу, калі ён хоча паказаць мне — бо каму яшчэ? — што не такі, як яны, што адказвае толькі за чырвоную кнопку, якую цісне, цісне, цісне, пакуль трэці з тых, што ўвайшлі, найстарэйшы з іх не крычыць: «Рабі, што кажуць!» — а генерал, якому перад сынам таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, толькі бунту ў раённай паліклініцы бракавала, падыходзіць да стала, бярэ ампулу і падае доктару: «Ці ты колеш гэта яму, ці ён, — ківае генерал на вартавога, які выззваўся зрабіць ін'екцыю, — коле гэта табе».

Генерал стаіць спінай да мяне, але нават па спіне генеральскай відаць, што чакае доктара, калі ён не возьме ампулы: вунь як вартавыя наструніліся! Доктар стаіць да мяне тварам — і па твары ягоным не скажаш, што ён гатовы зрабіць крок на шляху да ісціны, якая спасцігаецца праз боль. Такога развіцця падзей ён не чакаў, у мазгах ягоных рвуцца, лопаюцца звычныя сувязі паміж нейронамі, але чамусьці я не адчуваю праз гэта ніякага задавальнення, зласлівай радасці: вось табе, маўляў, трыццаць першая частка трэцяй песні «Бхагавадгіты»! Мне нават шкада доктара, бо якім бы ён ні быў цынікам, ён адзіны, хто адчувае за тое, што тут робіцца, хоць нейкі сорам... ці, магчыма, не сорам, нешта іншае, я не ведаю, што ў такіх выпадках адчуваюць цынікі... але нешта ж ён адчувае, калі спрабуе захаваць хоць рэшткі годнасці, няхай не падобна, што гэта яму ўдасца, хіба пасля рэінкарнацыі, у іншым жыцці... а можа, удасца і ў гэтым, бо ў дзверы ўскоквае задыханая медсястра: «Выбачайце!..» — і бярэ з рук генерала ампулу.

Пэўна, праз тое, што доктар не даў мне пігулкі, боль гэтым разам быў такі, што спынілася сэрца. «Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі... нарэшце...» — чуўся ў снежнай лясной цішыні, не падобнай ні да цішыні рачной, ні да цішыні лугавой, нечы знаёмы голас, і мне ўсё хацелася ўспомніць, чый?.. і карцела дазнацца ў яго: што ж такое я нарэшце зрузумеў? — але наўрад ці пра гэта я калі-небудзь дазнаюся, бо, ачуняўшы на аблытаным правадамі ложку, дыхаючы праз гумовую, як для мяча, якім гуляў у дзяцінстве, камеру, убачыў у халодна-голым, абкладзеным сіняй кафляй пакоі зусім іншага, незнаёмага мне чалавека, якога праз тое, што быў ён у белым халаце, можна было прыняць за доктара.

*12-21.02.2011, Мінск, хатні арышт.*

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» супраць «мядзведзяў»




**25 лютага на «Мінск-Арэне»** а 19 гадзіне пачнецца сустрэча ў рамках Еўрачэлэнджу. Мінскія «Цмокі» прымаюць «Бакен Бэарс» з горада Орхус.

## ІМПРЭЗЫ

### «Саламея»




**19 лютага (серада) у мінскай кнігарні «логвінаУ» (пр. Незалежнасці, 37А)** адбудзецца прэзентацыя беларускага перакладу п'есы Оскара Уайлда «Саламея». Пачатак а 20-й. Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### «Крама»

**25 лютага ў паб-клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** выступае гурт «Крама». Пачатак а 19-й.

### Пукст

**20 лютага ў паб-клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — прэзентацыя «Апошняга альбома» Сяргея Пукста. Пачатак а 19-й.

### Бабкін

**21 лютага ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** а 19-й у межах юбілейнага тура, прысвечанага 10-годдзю творчасці, выступіць Сяргей Бабкін.

### «Нагуаль»

**21 лютага ў новым мінскім клубе «Піраты» (пр-т Партызанскі,6А)** адбудзецца сумесны канцэрт брэсцкага гурту Plum Bum і гурту «Нагуаль». Пачатак а 20-й.

### Dzivasil

**24 лютага ў Тэатры беларускай драматургіі (Крапоткіна, 44)** Алесь Камоцкі пры падтрымцы гурту Dzivasil сыграе «Канцэрт для сяброў». Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### Стрыт-Арт

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (Незалежнасці, 47)** працуе выставачны праект «Стрыт-Арт». Экспазіцыя складаецца з фотафіксацый стрыт-арту, які існуе ў Варшаве (Польшча) і Тбілісі (Грузія).

### Ліхтарт

**У галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** разгарнулася выстава «Ліхтарт», прысвечаная святлу ў філасофскім і практычным аспектах. Удзельнікі «Ліхтарта» — больш за 70 дызайнераў і мастакоў.





**Трагіфарс «Візіт дамы»**

Нацыянальны акадэмічны драмтэатр імя Я. Коласа (Віцебск, Замкавая, 2) прадстаўляе прэм'еру «Візіт дамы». Гэта трагіфарс паводле твора Фрыдрыха Дзюрэнмата. Пастаноўку выканаў Уладзімір Савіцкі.



**«Завіруха-2014»**

**Адкрытыя міжнародныя спаборніцтвы** па зімовых відах ездавога спорту «Завіруха-2014» адбудуцца 22 і 23 лютага на прафесійнай лыжаролернай трасе футбольнага клуба «Мінск» (пр. Пераможцаў 22).

## ТЭАТРЫ

### 20 лютага

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Оперы і балета** — Яўгеній Анегін
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 21 лютага

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Лялек** — Ладдзя роспачы
**Оперы і балета** — Сем прыгажунь
**Юнага гледача** — Тарас на Парнасе

### 22 лютага

**Беларускай драматургіі** — Дамавічкі, Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Translations
**Лялек** — Чырвоны капялюшык
**Юнага гледача** — Кот у ботах, Дарога на Віфлеем

### 23 лютага

**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Сіняя птушка
**Юнага гледача** — Брык і Шуся шукаюць лета

### 25 лютага

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Оперы і балета** — Рыта, або Пірацкі трохкутнік

### 26 лютага

**Беларускай драматургіі** — Тры Жыззлі
**Юнага гледача** — Пан-міністар

## КІНО

### Дух у металічным целе

РабаКоп
Фантастыка, баявік, драма
**Рэжысёр:** Жазэ Падзілья
**У ролях:** Джоэл Кінаман, Гэры Олдман, Майкл Кітан, Эббі Корніш, Дэкі Эрл Хэйлі
ЗША, 121 хв.

У недалёкай будучыні Амерыка лёгка перамагае ў кожнай вайне, дзякуючы распрацоўцы кампаніі ОмніКорп —дроідам двух відаў. Але грамадзяне супраць таго, каб чалавекападобныя дроіды замянілі паліцэйскіх на вуліцах гарадоў Амерыкі. Каб змяніць меркаванне людзей, кіраўнік ОмніКорпа Рэйманд Сэларс даручае доктару Нортану стварыць робата з арганічным змесцівам — мозгам чалавека. А тут якраз аднаму з ахоўнікаў парадку не шанцуе: малады афіцэр паліцыі Алекс Мэрфі паранены выбухам сваёй жа машыны. Навукоўцы абяцаюць даць яму новае жыццё...

Рымэйк «РабаКопа» Пола Верховена 1987 года захаваў у сабе найлепшыя рысы арыгінала, дадаўшы сучасных відовішчнасці і рэалій, але не згубіўшы тонкага псіхалагізму. Чалавек, які захаваў свядомасць і памяць, прыходзіць у прытомнасць у целе робата і сутыкаецца з цяжкасцямі, дасюль невядомымі нікому. Ён вымушаны стасавацца з людзьмі, якія нават цяпер хочуць пазбавіць яго эмоцый і цалкам кантаралюючь яго жыццядзейнасць. Фільм пра тое, як чалавечае перамагае любыя штучныя дадаткі.

**Настасся Уласава**



# Мікалай Казека — канструктар беларускіх перамог

**Геніяльны трэнер** пятую Алімпіяду запар прывозіць медалі па фрыстайле.

### У фрыстайле 28 гадоў

Фрыстайл узнік у пачатку 1970-х гадоў у Паўночнай Амерыцы. Напрыканцы таго дзесяцігоддзя сталі разыгрывацца першыя Кубкі свету. У СССР лыжная акрабатыка прыйшла ў 1985-м. Праз год — дайшла да Беларусі.

Дзяржкамспорт БССР выдала пастанову «Аб некаторых мерах па развіцці фрыстайла». У новы від спорту запрасілі атлетаў з горных лыжаў, скачкоў на батуце, гімнастыкі, фігурнага катання. Можна нават казаць, што менавіта БССР стала лабараторыяй па развіцці фрыстайла. Напрыклад, гэтаксама ў Латвіі развівалі санкі і бабслей. Вынікі бачым і сёння.

Ужо ў 1986-м Казека стаў старшым трэнерам зборнай БССР. І больш не пакідаў сваёй працы.

### Прыйшоў з батута

У фрыстайл жа Мікалай Іванавіч трапіў са скачкоў на батуце, у якіх станавіўся чэмпіёнам СССР (1972). Аднак батут у тыя часы не быў алімпійскім відам спорту, таму трапіць на Гульні ў якасці спартоўца Казеку не ўдалося. Па сканчэнні кар'еры ж працаваў спачатку трэнерам па скачках у ваду.

«Я ніколі да гэтага не бачыў горных лыжаў. І мне здавалася, што ніколі не навучуся на іх катацца», — згадваў настаўнік. «Фрыстайл — гэта рызыка на мяжы авантуры», — казаў ён.

### Адмовіўся пераехаць за мяжу

Казеку ўжо 63 гады. Ён мінчук. Хоць дзіцём лета заўсёды бавіў у вёсцы на Магілёўшчыне.

«Мне ўжо нецікавыя пэўныя месцы, а само пашырэнне чалавечых магчымасцяў», — кажа Казека. У Сочы Антон Кушнір скакаў трайное сальта з пяццю вінтамі, ад гэтага стыне кроў у венах. А Казека кажа: гэта не мяжа. Чалавек здольны скакаць і з шасцю вінтамі.

«У нас галоўны трэнер і адміністратар, і заўгас, і лабіст. Мне падабаецца трэніровачны працэс, яго сутнасць, але даводзіцца займацца ўсім гэтым», — кажа Казека.

Вядома, такога таленавітага настаўніка шмат разоў запрашалі на працу за мяжу, але ён адхіляў усе прапановы. «Лепш чым дома, мне нідзе не будзе. Ды і ўсіх грошай зарабіць немагчыма», — казаў ён.

### Збірае маркі

Вынікі ягонай працы проста фенаменальныя. Пройдземся па Алімпіядах. Нагана-98 — бронза Дзмітрыя Дашчынскага, Солт-Лэйк-Сіці-2002 — бронза Аляксея Грышына, Турын-2006 — срэбра Дзмітрыя Дашчынскага, Ванкувер-2010 — золата Аляксея Грышына, Сочы-2014 — золата Антона Кушніра і Алы Цупер.

Такімі вынікамі не можа пахваліцца ніводны айчынны спецыяліст. Прычым здзіўляе ягонае ўменне падрыхтаваць спартоўцаў на самыя адказныя старты. Самай важнай рысай чалавека ён называе працавітасць.

А хобі мае зусім бяскрыўднае — збіранне марак.



### Сын беларускага літаратурнага крытыка

«Безумоўна, даводзіцца нечым ахвяраваць, але сям'я разумее, чым я займаюся. Гэта мая праца. Тым больш што сын ужо дастаткова самастойны. Ён захапляецца сноўбордам. І займаецца наукова работай. Як кажуць, выбраў для сябе крыху іншую дарогу, чым бацька», — казаў Казека ў інтэрв'ю «Народнай волі».

Бацька Казекі — беларускі літаратурны крытык Янка Казека. Аўтар кніг па творчасці Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага. Быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь». Памёр у 2000-м.

Ды і сам Мікалай Іванавіч не супраць пачытаць па-беларуску. Напрыклад, адным са сваіх адкрыццяў у інтэрв'ю tut.by называў «Гамлета» ў беларускім перакладзе.

Сын скончыў Дэнверскі ўніверсітэт (ЗША). У адным з інтэрв'ю Казека казаў, што сын працаваў выкладчыкам у Фрайбургскім універсітэце (Германія).

Жанаты другі раз.

**Зміцер Панкавец**

## Беларускія алімпійцы зарабілі 800 тысяч даляраў

У інтэрнэце ўжо жартуюць, што беларускім уладам давядзецца браць крэдыт, каб расплаціцца з алімпійцамі. Кіраўніцтва краіны паабяцала за залатыя медалі 150 тысяч даляраў, за срэбныя — 75, за бронзу — 50. Такім чынам Дар'я Домрачава (тры залатыя) ужо зарабіла 450 тысяч даляраў, Ала Цупер і Антон Кушнір — па 150, Надзея Скардзіна — 50.

Колькі абяцаюць і колькі аддадуць іншыя краіны.

| Краіна | Золата, у далярах | Срэбра | Бронза | Колькі ўсяго заплацяць па стане на аўторак |
|---|---|---|---|---|
| Латвія | 193 000 | 96000 | 68000 | 232 000 |
| Італія | 190 000 | 100000 | 68000 | 404 000 |
| **Беларусь** | **150 000** | **75000** | **50000** | **800 000** |
| Украіна | 125 000 | 80000 | 55000 | 55 000 |
| Расія | 115 600 | 72200 | 49000 | 1 155 894 |
| Швейцарыя | 89 000 | 78000 | 49000 | 650 000 |
| Чэхія | 74 000 | 36000 | 22000 | 204 000 |
| Францыя | 69 000 | 27000 | 18000 | 279 000 |
| Паўднёвая Карэя | 62 000 | 52000 | 36000 | 150 000 |
| Славакія | 61 000 | 47 000 | 27000 | 61 000 |
| Кітай | 50 000 | 25 000 | 15 000 | 215 000 |
| Фінляндыя | 40 000 | 20 000 | 14 000 | 40 000 |
| Галандыя | 40 000 | 30 000 | 20 000 | 490 000 |
| Польшча | 38 000 | 25 000 | 16 000 | 152 000 |
| Японія | 30 000 | 20 000 | 10 000 | 110 000 |
| ЗША | 25 000 | 15 000 | 10 000 | 285 000 |
| Германія | 21 000 | 14 000 | 10 000 | 230 000 |
| Канада | 20 000 | 15 000 | 10 000 | 225 000 |
| Аўстралія | 13 000 | 9 000 | 7 000 | 25 000 |
| Швецыя | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Вялікабрытанія | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Нарвегія | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Азербайджан | 510 000 | 225 000 | 130 000 | 0 |

## Беларускіх біятланістак трэніруе немец

А лыжы рыхтуе **нарвежац**.

Калі Дар'я Домрачава сканчвае стральбу, то тэлевізійшчыкі часта паказваюць сівога мужчыну ў шапачцы з беларускім арнаментам. Ён ці то задаволена пацірае рукі, ці то разводзіць іх убакі. Гэта Клаўс Зіберт. Апошнія 6 гадоў ён працуе з жаночай зборнай Беларусі па біятлоне.

Яму 58 гадоў. У свой час Зіберт быў выдатным спартсменам. Ён тройчы станавіўся чэмпіёнам свету (праўда, двойчы ў эстафетах). А яшчэ аднойчы быў срэбраным прызёрам Алімпіяды.

Клаўс Зіберт родам з ГДР. Біятлон з Усходняй Нямеччыны заўсёды лічыўся ці не самым моцным у свеце. У канцы 1970-х — пачатку 1980-х гэдээраўцы бязззменна дамінавалі ў гэтым відзе спорту: Франк Ульрых, Эберхард Рош, Андрэ Заміш. Ужо па аб'яднанні Германіі прадстаўнікі ГДР заставаліся на першых пазіцыях: Свен Фішэр, Рыка Грос, Андрэй Хенкель, Каці Вільхельм. Гэта ўсё легенды біятлона. Клаўс Зіберт граў не апошнюю ролю.

Потым Зіберт узяўся за трэнерскую працу. Прычым, каго б ён ні трэніраваў, ягоныя выхаванцы дасягалі поспехаў. Зіберт працаваў з біятланістамі з ГДР, Аўстрыі, Кітая. Усе пачыналі дасягаць поспехаў.

Ягоны выхаванец Рыка Грос выйграваў тры залатыя медалі на адной Алімпіядзе, тое самае, што цяпер паўтарыла Домрачава. Аўстрыйцы пры



**Клаўс Зіберт з беларускімі дзяўчатамі.**

Зіберту здолелі зрабіць крок, каб дарасці да эліты сусветнага біятлона. Калі немец працаваў у Паднябеснай, то кітаянкі стала траплялі на п'едэстал, цяпер ужо мала хто ўспамінае тыя часы.

«Сёння працую для Беларусі, значыць, я — беларус. А калі працаваў у Кітаі, быў кітайцам. Гэта мая філасофія», — кажа Зіберт.

Поспех Домрачавай і прагрэс Скардзінай — гэта справа рук Зіберта. І дзяўчаты вельмі любяць свайго трэнера. Называюць яго ласкава «Зібыч».

У сезоне 2010—2011 у Зіберта выявілі цяжкую стадыю рака тоўстай кішкі. Лекары не гарантавалі нічога. Аднак Зіберт змог перамагчы хваробу.

Дарэчы, Зіберт не адзіны замежнік, што працуе са зборнай Беларусі. Нарвежац Івар Міхал Улеклеіў з'яўляецца нашым сэрвісменам, то бок рыхтуе лыжы. У Сочы ён сказаў, што скарыстаў для лыжаў Домрачавай унікальную мазь, якую не выкарыстоўвае ніхто ў свеце. Мазь нарвежац падрыхтаваў самастойна. Таму і лыжы кацілі выдатна.

**Зміцер Панкавец**



Падведзеныя вынікі конкурсу World Press Photo—2014. Пераможцам стаў амерыканскі рэпарцёр Джон Стэнмаер. Ён сфатаграфаваў самалійскіх мігрантаў у Джыбуці, якія ўначы спрабуюць злавіць на мабільнікі сігналы з роднай краіны — гэта тонкая сувязь са сваякамі, што засталіся на Радзіме. Краіна Джыбуці выступае перавалачным пунктам для жыхароў Самалі, Эфіопіі, Эрытрэі, якія ўцякаюць на Блізкі Усход і ў Еўропу.



Першае месца ў катэгорыі «Штодзённае жыццё». Нямецкі фатограф Юліус Шранк адлюстраваў, як байцы Арміі незалежнасці Качына (штат Бірмы на мяжы з Кітаем) п'юць і спяваюць на пахаванні аднаго са сваіх камандзіраў.



Першае месца ў катэгорыі «Асобныя навіны». Людзі, што выжылі пасля тайфуну «Хаян» ідуць у рэлігійнай працэсіі ў горадзе Талас на Філіпінах. Тайфун забраў жыцці 8 тысяч чалавек.



Першае месца ў катэгорыі «Спорт». Шведская сяміборка Надзя Касадэі пачуваецца значна лепш пасля курса хіміятэрапіі, восенню 2013 ёй дыягнаставалі рак. Надзя спадзяецца падрыхтавацца да Алімпіяды-2016 у Рыа-дэ-Жанейра.



## Анекдоты і жарты

* * *

У Беларусі створана грамадская кампанія «Будзьма рэалістамі!». У ліку заснавальнікаў — Міхаіл Мясніковіч, Пятро Пракаповіч, Павел Латушка.

* * *

Канькабежац з Самалі прынёс сваёй камандзе медалі.

Але дзе ён іх узяў, не паведамляецца.

* * *

Беларускі турыст прыязджае ў Іерусалім. Хоча з'ездзіць да Сцяны плачу. Садзіцца ў таксоўку і забываецца назву гэтага месца. Звяртаецца да таксіста:

— Завязіце мяне ў тое месца, дзе габрэі плачуць, б'ючца галавой аб сцяну.

— Ааа! Вам у падатковую інспекцыю?

* * *

Падсудны: У нас два Раствы, два Вялікадні, два Новыя годы і дзве дзяржаўныя мовы... Дык, таварыш пракурор, вы хочаце, каб у нас была адна бухгалтэрыя?

* * *

— Значыць, у цябе ёсць хлопец?

— Так. Моцны, разумны і прыгожы.

— А як завуць?

— Дзіма, Саша, Коля.

* * *

Спіс смяротных грахоў падазрона нагадвае мае планы на выхадныя.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Наша Чорная Весь (Гродзенскі павет)** ёсць адна з багацейшых вёсак. Тутака толькі што не кожны чалавек робіць дахоўку (чарапіцу), мае печ для выпалу яе і кожны прадае яе не толькі для вёсак, а і ў гарады цэлымі вагонамі і зарабляюць шмат грошай, а за гэта ж і шмат п'юць гарэлкі. Будуўлі ў нас выглядаюць як гарадскія: страх саламяных саўсім няма. І едучы праз гэтую вёску, неяк радасць бярэ, пглядаючыся на харошыя чырвоныя дахі.

**«НН». №8. 1914.**

**Невядомы Быкаў.** Тост «За снайпера» мог бы стаць эпіграфам да аповесці «Афганец». Чалавек жыве дзеля аднаго-адзінага моманту. А што, калі гэты момант мінае? А нічога. Жыве далей, але без сэнсу. Ступак з «Афганца» таксама неспадзявана атрымлівае шанец спраўдзіць сваю мару — забіць дыктатара. Чаму ж не стрэліў «афганец»? Не меў дастатковай матывацыі. Ягоныя сацыяльныя праблемы вырашыліся з пераходам на поўнае дзяржзабеспячэнне. Іншых прычын забіваць не было. Нацыянальнае «я» Ступака зламалі, прымусіўшы перайсці на «гарадскую» мову. Чалавечае «я» расцёрлі даўняй вярбоўкай КДБ.

**«НН». №7. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 18.02.2014.
Замова №609.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

